# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 7–8 (55–56) • ЛІПЕНЬ–ЖНІВЕНЬ • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,**
**Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы**
**і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Беларускі самадзейны ансамбль**
**“Маланка” (Бельск Беластоцкага ваяв., Польшча)**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА “МАБ”, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **500 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —**
**3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні**
**АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**





***Ян Чыквін*** *(Беласток, Польшча)*

## ПРАБЛЕМА АДНОСІН ДА БОГА (ЯНКА КУПАЛА, АЛЕСЬ ГАРУН, НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА, МАКСІМ ТАНК)

**Ян Чыквін** — доктар філалагічных навук, прафесар Універсітэта ў Беластоку. Аўтар многіх паэтычных і літаратуразнаўчых кніг. Узначальвае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа". У аснову артыкула пакладзены даклад Я. Чыквіна на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

Па свайму агульнаму духу беларуская паэзія XX ст. — з'ява амаль чыста свецкага характару, і таму праблема адносін да Бога ў яе гісторыі навейшага перыяду — праблема ледзь не маргінальная. Маргіналізавалася яна ў свой час не толькі панаваннем вульгарна-сацыялагізаванага схематызму і ўсялякага роду ідэалагічнага дыктату, але таксама і тым, што рэлігійныя праблемы, па розных прычынах, у асноўным не мучылі беларускіх пісьменнікаў. Яны не былі богашукальнікамі. Рэлігія не сталася для іх крыніцай узвышаных ідэй, паэтычных вобразаў і матываў. Няма ў беларускай паэзіі культавых вершаў пра Хрыста, словаспеваў, прысвечаных Багародзіцы, хоць няма таксама лішняй канфесійнай прадузятасці. Хрысціянства, царкоўнасць "умешвалася" ў іхняе жыццё і творчасць як прыйдзецца. У шмат якіх паэтычных тэкстах адгукаюцца менавіта тыя самыя павярхоўна-традыцыйныя, законапаслушніцкія адносіны да сваёй веры, зведзеныя да штампаў, без актыўнага ўспрыняцця і тлумачэння хрысціянскіх догмаў і канонаў.

І тым большую вартасць маюць для нас тыя некаторыя "маргінальныя" паэтычныя творы, у якіх свецкія аўтары непасрэдна выказваюць свае хрысціянскія перакананні, выяўляюць сілу і ступень сваёй веры або маральна-этычны яе эквівалент. Маем тут на ўвазе ў першую чаргу такія вершы, як "Цару неба й зямлі" (1912) Янкі Купалы, "Малітва", (той самы, прыкладна, час напісання) Алеся Гаруна, таксама "Малітва" (1943) Наталлі Арсенневай і верш Максіма Танка без назвы ("Малю: не спяшы…") пачатку 90-х гг.

Кожны з гэтых твораў — выдатны ўзор лірыкі рэфлексійна-медытатыўнай і як такі мог бы стаць эпіцэнтрычным прадметам глыбокага аналізу ў кантэксце ўсёй творчасці паэта. Аднак тут мы аб'ядноўваем іх у своеасаблівую паэтычную тэтралогію з увагі на адметную прэзентацыю прадстаўленай праблемы і ўнутраную для кожнага з гэтага "цыкла" твора палемічнасць з некаторымі біблейнымі тэкстамі або пэўнай тэалагічнай канцэптуальнасцю. Аб'ядноўвае іх таксама і тое, што ўсе чатыры тэксты грунтуюцца на неаспрэчным рэлігійным светаўспрыманні. Гэта значыць, што паэтычныя мікрасветы створаны аўтарамі

на фундаментальнай пасылцы, што асноваю асноў з'яўляецца Бог — Тварэц усяго існага, першая і апошняя інстанцыя. Найвышэйшы аўтарытэт, да якога звяртаюцца ў часы ліхалеццяў, калі адчуваецца перапыненасць у развіцці чалавечай гісторыі, калі сістэмы зямных каштоўнасцей раптоўна разбураюцца і зямная ўлада маўчыць або не ў сіле даць задавальняючыя адказы на чалавечыя пытанні. І чалавек застаецца з імі сам-насам. Як гэта было ў перыяд расійскіх рэвалюцый (вершы Янкі Купалы і Алеся Гаруна), Другой сусветнай вайны (верш Наталлі Арсенневай) і распаду Савецкага Саюза (тэкст Максіма Танка). Такім чынам, у названых творах сутыкаюцца ў своеасаблівым антаганізме план зямной рэальнасці, зямнога чалавечага розуму і план нябесны, боскай ісціны. Аднак кожны з чатырох тэкстаў гэты антаганізм вырашае па-свойму.

Верш "Цару неба й зямлі" належыць пяру маладога Янкі Купалы, але ж ужо паэта-максімаліста, выкрывальніка нацыянальнай і сацыяльнай палітыкі царызму ў Беларусі, паэта, які выношваў у сабе палымяную адраджэнскую легенду пра ўваскрэсенне Бацькаўшчыны. Увасабляючыся ў ролю то гусляра-будзіцеля, уладара дум і сэрцаў, урэшце прарока, адваката мужыкоў, ён "з рабства кліча людзей на волю" ("Прарок"). Ужо ў ранняга Янкі Купалы фарміруецца праз меру высокае, народжанае духам таго часу меркаванне пра чалавека, ягоныя магчымасці. Беларусь, народ, мужык — вось асноўныя героі, яны ідуць з верша ў верш, фактычна толькі яны пастаянна на вуснах пісьменніка. Купалаўскі чалавек адчувае сябе ўсемагутным і здольным знайсці праўду. І сам паэт верыць у сэнс такога ягонага бунту, насілля і гвалту.

У такой псіхалагічнай і літаратурнай атмасферы 1912 г. і ўзнікае яго вышэйназваны твор, гнеўны ў сваім агульным пафасе. Паэт, па-зямному нецярплівы, абрушваецца на Бога з зусім не рытарычнымі пытаннямі-папрокамі: "за што караеш?", "чаму маўчыць твой гром?", "за што над намі даў перамаганне?", "чаму не змыеш цярпенняў раны?". Заступаючыся за свой народ і краіну, Купала дазваляе сабе даць пашыраную і выключна адмоўную характарыстыку адрасанта. Ён экспрэсіўна канстатуе Богавы, як яму здаецца, прыкметы бяссілля, паступова ўзмацняючы іх сэнсавую выразнасць: "не можаш", "не бачыш", "не бачыш", "адабраў", "кінуў", "кінуў", "пазбавіў", "выгнаў", "прадаў", — каб завяршыць гэты пералік найгоршым абвінавачваннем: "ты глух паняць мальбы няшчасных".

У гэтым вершы, як відаць з яго зместу, гаворка не ідзе, аднак, пра адцягненыя эмпірэі, але якраз пра надта актуальныя, набалелыя рэаліі. Ён і напісаны паэтам у стылістыцы як бы дзелавой паперы, з выкладам сутнасці справы, якая павінна разглядацца. Таму ў такой "дакладной", як і належыць па жанру, яе аўтар не забывае, мабыць, у канцы прамым тэкстам напомніць: "паймі", "пачуй", "пашлі", "вярні".

Андрэй Кураеў, дыякан Срэценскага манастыра, у сваёй кнізе "Ранняе хрысціянства" гаворыць: "Ёсць у кнігах Старога Запавету адна рыса, якая ўражвае кожнага чытача Святога Пісання [...]. Гэта дзіўная, бадай што, шакіруючая рыса Пісання — гатоўнасць яго святых аўтараў уступіць у палеміку з Тварцом [1].

Замест таго, каб праслаўляць Бога, — сцвярджае ён далей, — ставіцца да яго з глыбокай пашанай, схіляцца перад яго веліччу, яны асмельваюцца выказваць сваё неўразуменне шляхоў Гасподніх".

Не можа зразумець Божага наканавання прарок Іерамія, калі пытаецца: "Почему путь нечестивых благоуспешен и все вероломные благоденствуют?" (Іерамія, 12:1). Тыя ж неўразумелыя пытанні з'яўляюцца на вуснах Асафа і Авакума, калі адзін з іх дапытваецца: "Доколе, Господи, я буду взывать, и Ты не слышишь, буду вопиять к тебе о насилии. И Ты не спасаешь? Для чего даёш мне видеть злодейство и смотреть на бедствия? Грабительство и насилие предо мною" (Авакум, 1: 2, 3). Здзіўляецца тайніцы божай цар Давід і яго сын Эклезіяст. Нераскрытая загадка чалавечага быцця мучыць і Іова [2], падобна як і беларускага паэта, які свае пытанні-абвінавачванні падае, у адрозненне ад біблейных праведнікаў, адно ў паэтычна-асучасненай форме. Але па зместу гэта тая самая старазапаветная гнеўная людская разгубленасць. Менавіта Бога Старога Запавету, а не евангельскага Хрыста і тым болей не фальклорнага ці язычніцкага ідала, робіць Купала сваім апанентам. І гэта яму ён выстаўляе крыўдурахунак за здзекі над простым народам ад імя таго ж народа.



**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

Праўнучка беларускага, польскага і чылійскага вучонага-асветніка Ігната Дамейкі Эва Адахоўская з першым намеснікам міністра замежных спраў Беларусі Сяргеем Мартынавым у час яго візіту ў Чылі ў 1999 г.

Купала, несумненна, абвострана бачыў і хваравіта адчуваў рэальную несправядлівасць свайго часу, не мог змірыцца з ёю, як біблейныя аўтары, таксама адкрыта выказаў свой супраціў у філіпіцы да Найвышэйшага, называючы Яго "царом". У гэтым іранічным звароце "цару неба й зямлі" — таксама нешта ад старазапаветнай "шакіруючай гатоўнасці" ўступіць у спрэчку з Богам, падужацца з Ім, хочучы як бы пры дапамозе адной пісулькі — адрасаванай нібыта кіраўніку дзяржавы — аформіць адразу ўсю справу быцця народа.

У гэтым нечакана-унікальным вершы (а творчасць Янкі Купалы паказвае, што ў рэлігійных справах ён быў дастойным сынам атэістычнай эпохі і ў яго, як, зрэшты, ва ўсёй беларускай савецкай паэзіі, шмат культаў навыварат) паэт, відаць, несвядома выносіць напаверх яшчэ адну праблему — праблему тэадыцэі, якая ідзе таксама ад духу Старога Запавету і якая станецца ўжо ў навейшым часе адной з асноўных тэалагічна-філасофскіх праблем: ці можна апраў-

даць Бога-Тварца перад наяўнасцю зла на зямлі, апраўдаць Яго як невінаватага ў пакутах чалавека і цэлых народаў?

У гэтай матэрыі Янка Купала стаіць на пазіцыі (у час напісання твора), блізкай бальшавікам ці наогул рускім людзям, якія, як сцвярджае М. Бярдзяеў, "з літасці, спачування, з немагчымасці вытрываць пакуты рабіліся атэістамі, таму што не маглі ўспрыняць Тварца, які стварыў нядобры, недасканалы, поўны пакут свет. Яны самі хочуць стварыць лепшы" [3]. Янка Купала не апраўдвае Бога, аднак як бы стварае яму шанц самому апраўдацца. Ён піша: "Паймі, пачуй, пашлі, вярні // Калі ты цар і неба і зямлі". У гэтай лагічнай імплікацыі (калі, то…) у згорнутай форме прыхаваны сэнс старазапаветных пакут і Іова, якому сам вялікі Бог, зышоўшы ў ягоныя парогі, патлумачыў, што свет намнога больш бязглузды і Гасподнія шляхі намнога больш ірацыянальныя, чым гэта здаецца чалавеку Іову, і патрабаваць таму ж чалавеку законнай справядлівасці і рацыянальнай зразумеласці Боскай волі —дарэмны высілак. Але якраз гэты вопыт Іова застаўся па-за гарызонтам творчасці Купалы. Яго звабіла антропадыцэя з тэндэнцыяй не да шукання, а павучання.

Вершы Алеся Гаруна і Наталлі Арсенневай, тыя, што маюць аднолькавую і трапную для гэтых паэтычных тэкстаў назву "Малітва", накіраваны ў бок паказу іншай для беларускай паэзіі XX ст. тэалагічнай праблемы — своеасаблівай ідэі богапакінутасці, якую яны вырашаюць, зыходзячы з пераасэнсавання дэістычнага светапогляду. Дэізм жа, як вядома, узнік у нетрах Асветніцтва як рэлігія скептыкаў і рацыяналістаў, "родапачынальнікам" якой з’яўляецца, мабыць, евангельскі Фама няверны. Прапаведнікі гэтай плыні стваральнікам свету прызнаюць, вядома, Бога, але той Бог, паводле іхняй канцэпцыі, стварыўшы свет, у далейшым яго існаванні не ўдзельнічае.

Гэтакая незалежная ад чалавека богаадчужанасць, як паказвае Арсеннева, можа мець, аднак, вельмі благія наступствы. У сваёй лаканічнай "Малітве" яна паказвае, што беларускі народ і ягоная зямля бяссільны самі па сабе стаць шчаслівымі і свабоднымі. Без тэафаніі, без боскага ўмяшання, — піша яна, — не спорыцца праца, няма павагі, сілы, няма веры ў праўду, у прышласць, няма ўрадлівых палеткаў ды людскіх добрых учынкаў. Беларускай зямлі і народу проста-такі неабходна непасрэднае ўваходжанне Бога (сакрум) у гэтую чалавечую гісторыю (прафанум). І менавіта аб гэтым беларуская паэтэса моліць Бога: "Над Беларусяй ціхой і ветлай // рассып праменне Свае хвалы", — у значэнні: сыдзі да нас, бо сэнс чалавечай быційнасці надаць можа толькі прысутнасць сакрум, боскае праменне.

У адрозненне ад Н. Арсенневай А. Гарун ідэю богапакінутасці рысуе ў больш драматычнай танальнасці. Калі ў яе вершы з лірычнай просьбай да "ўладара сусветаў, вялікіх сонцаў і сэрц малых" звяртаецца звычайны чалавек, то ў Гаруна Богу-Айцу моліцца сам Сын Яго. Моліцца ў той самай справе: каб памагчы людзям пераадолець іхняе выпрабаванне адчужанасцю ад Бога.

У Евангеллі паводле Іаана, адкуль паэт, несумненна, запазычыў гэты матыў, гаворыцца вось пра што: "Перад святам Пасхі Ісус, ведаючы, што прыйшла Яго

гадзіна перайсці з гэтага свету да Айца" (13: 1), спавядаецца перад Усявышнім, кажучы між іншым: "Я ўславіў Цябе на зямлі: завяршыў дзела, што Ты даў мне зрабіць" (17: 4), "Я абвясціў імя Тваё людзям" (17: 6), "Словы, якія Ты даў мне, я аддаў ім, і яны прынялі і запраўды зразумелі" (17: 8).

На падставе гэтай новазапаветнай сцэны "няверны Тамаш", як назваў сябе А. Гарун у адным з вершаў, стварае бліскучую паэтычную транскрыпцыю таго сюжэта. Па сутнасці, ён паказвае якраз незавершанасць Хрыстовай дзейнасці. Евангельскі Сын Божы, як вядома, уздзейнічаў на людзей выключна словам — навучаў словам, вылечваў словам, выпраўляў норавы словам. Тут паэт, аднак, выяўляе, што менавіта Ягоныя словы, якія Ён, як сказана ў Новым Запавеце, "аддаў ім", людзьмі ўсё-такі або не былі прыняты цалкам, або яны самыя, мажліва, аказаліся заслабымі. Вось жа Хрыстос з верша А. Гаруна і моліць Бога-Айца (у кожнай страфе аказваючы Яму дадатковы піетэт у звароце: Пане, Мілы, Міласцівы, Сьяты, Вялікі) даць яму "моцных слоў! Маланак слоў палючых", "Ах, дай мне, Божа, гэткіх слоў, // Зямля б ад іх траслася!"



**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

Севастопальскія беларусы каля магілы Максіма Багдановіча

Гаруноў Хрыстос непадобны на лагоднага, дабрадзейнага евангельскага Ісуса. Чалавечую рэчаіснасць ён бачыць у рэзкіх кантрастах, ад чаго Яму і душа баліць, і кроў сочыцца, бо — з аднаго боку — ідзе "паўсюль рабунак", "глум", чуцён "смех чорных зграй", а з другога — "мацнее плач", "стогн" і "жальбы", "галоў усё болей гнецца", "надзеі ў людзях болей нет". Але ж як для адных, так і другіх "прыцьмёна праўды сонца", — кажа паэт вуснамі Хрыста. У сваёй як бы чалавечай роспачы і бяссіллі Сын кліча быць сведкам гэтага бясчынства нават самога Бога-Айца, шматкроць просячы: "дзівіся", "паглянь", "зірні", "схініся", "абач", "паслухай", "скажы маўчаці", "узглянь".

З тэксту і падтэксту верша А. Гаруна вынікае, што Хрысту "палючыя", "моцныя словы" патрэбны дзеля таго, каб зварухнуць інертнасць людскіх душаў, каб людзі скінулі путы апатыі, каб убачылі свой грэх раўнадушша і безыдэйнасці, каб прынялі Бога. Але высілак Хрыста — іхні "праўдзівы гнеў будзіці" — надарэмны. Сцэну малітвы Сына Божага ўстаўляе паэт у рамку "голасу, які кліча ў пустыні". Так, Хрыстос моліцца ў пустыні, а гэта значыць, што ягоныя словы, хоць і звернутыя да Бога, па самому закону чалавечай

логікі не знойдуць водгуку, не будуць выслуханы ні Айцом, ні тым болей людзьмі.

У справах выкарыстання рэлігійных стымулаў для адраджэння айчыны А. Гарун відавочна быў песімістам. Ён выразна схіляўся да сацыяльнага і нацыянальнага радыкалізму, аб чым і сведчаць ягоныя вершы. І Бог у ягоных грамадска-палітычных поглядах быў як бы ні пры чым. “Пакінь, пакінь спяваць аб праўдзе той, што ў небе! // Яна чужая нам, таемных праўда сіл”, — маніфеставаў ён прама гэтую паставу ў іншым сваім выдатным вершы пад назваю “Паэту”.

А ў першай палове 90-х гг. Максім Танк, завяршаючы тую эпоху, да якой ён сам належаў і якой у значнай ступені акрэсліваў кшталт, вызначыў праблеме адносін да Бога нечаканую для беларускай паэзіі адваротную перспектыву. Не пагаджаючыся, відаць, з рэлігійнай ідэалагемай “Малітвы” Н. Арсенневай, а можа, таксама маючы маральна-этычную патрэбу яшчэ раз пасведчыць, што творчыя дарогі яе і яго, разышоўшыся калісьці, на пачатку паэтычнага шляху, не сышліся вось і пры ягоным канцы, ён у лапідарнай паэтычнай форме выяўляе сваё (дагэтуль не вынесенае навонкі з глыбіні душы) адметнае веравызнанне, складае сваю малітву ў богапакінутым свеце: “Малю: не спяшы, Літасцівы, з’явіцца // На грэшную нашу зямлю […] // Каб зноўку, замест ліхадзея Варавы, // Другі раз цябе на крыжы не распялі”.

Як бачым, М. Танк, у адрозненне ад папярэднікаў, што выступалі перад Богам як адвакаты народа і краіны, сэнсавы акцэнт пераносіць на самога Хрыста як таго, хто менавіта цяпер патрабуе абароны як найбольшая для чалавека вартасць, якую неабходна зберагчы ўжо фактычна як адзіную вартасць, якая засталася, — таму што, як сцвярджае паэт, фарысеі, якія “ў нас правяць […] топчуць, разбіўшы, святыя скрыжалі”. Вось чаму Міласцівы не павінен спяшацца з прышэсцем. Што ж гэтым сучасным малым інквізітарам Хрыстос!.. Прыпамінаецца тут “Легенда аб Вялікім інквізітары” Ф. Дастаеўскага з яе шматлікімі глыбінямі сэнсаў.

Верш М. Танка, гэтая яго фінальная літаратурна-музычная кода, не мае сабе, здаецца, аналагаў не толькі ў кантэксце творчасці гэтага паэта. А творы Я. Купалы, А. Гаруна і Н. Арсенневай у плане ідэйна-вобразным звязаны моцнымі ніцямі літаратурнай пераемнасці з вершамі Ф. Багушэвіча “Праўда” і “Бог не роўна дзеле”.

Ад купалаўскага абвінаваўчага акта Усявышняму да абароны Яго ў Танка — такі шлях развіцця гэтай важкай праблемы зносін чалавека з Богам, праблемы, якая зігзагападобнай маланкай прабягае па вяршынях беларускай паэзіі XX ст., паказваючы на яе глыбокія хрысціянска-этычныя вытокі.

---

[1] Диакон Андрей Кураев. Раннее христианство и переселение душ. 1998. 2-е изд. С. 42.

[2] Всё одно: поэтому я сказал, что Он губит и непорочного и виновного. Если этого он поражает бичом вдруг, то пытке невинных посмеивается. Земля отдана в руки нечестивых (Іоў, 9: 22–24).

[3] Цыт. па: Назаров М. Тайна России: Историософия XX века. М., 1999. С. 178.

*Марыя Міцкевіч* (*Мінск*)

# РЭЛІГІЙНЫ ЭЛЕМЕНТ Ў ТВОРЧАСЦІ ЯКУБА КОЛАСА ПАВОДЛЕ ЭМІГРАЦЫЙНЫХ ВЫДАННЯЎ І ПЕРАДАЧ РАДЫЁ ВАТЫКАНА

12 лютага 1931 г. папа Пій ХІ ўпершыню звярнуўся да ўсяго свету праз Ватыканскую радыёстанцыю, якая была пабудавана вядомым італьянскім вынаходнікам Марконі. Слова Божае з Ватыкана атрымала магчымасць даходзіць да вернікаў розных краін. З кожным годам павялічвалася колькасць праграм, якія перадаваліся больш як на трыццаці мовах.

**Марыя Міцкевіч** — навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Узначальвае дабрачынны фонд “Сакавік”. Вывучае пытанні эміgranцкай літаратуры. Публікуецца тэкст, прадстаўлены на III Міжнародны кангрэс беларусістаў.

У снежні 1949 г. першы раз узляцеў з ватыканскіх узгоркаў беларускі голас, а з 6 студзеня 1950 г. распачаліся рэгулярныя беларускія радыёперадачы Радыё Ватыкана.

У верасні 1950 г. у першым нумары рымскага “Зьніча” яго рэдактар і выдавец кс. Пётр Татарыновіч пісаў: “Браты Беларусы! Ваша мова дачакалася найвышэйшага прызнаньня. Вы можаце карыстацца ёю ў кожную пятніцу ў г. 18.30, слухаючы Ватыканскіх радыёперадачаў на кароткіх хвалях…”

Пачынальнікам і кіраўніком беларускай секцыі Радыё Ватыкана быў кс. П. Татарыновіч. Спачатку гэтыя перадачы адбываліся раз у тыдзень, а з 1970 г. — пяць разоў у тыдзень. У 1971 г. кіраўніком беларускай секцыі стаў айцец Леў Гарошка.

Жыццёвы шлях Льва Гарошкі, як і Якуба Коласа, звязаны са Стаўбцоўшчынай. Нарадзіўся Л. Гарошка ў 1911 г. у вёсцы Трашчычы Стаўбцоўскага павета. Скончыў сямігодку ў Міры, потым вучыўся ў Навагрудскай гімназіі. У 1937 г., пасля заканчэння Львоўскай духоўнай акадэміі, быў рукапаложаны ў святары, служыў у розных месцах на Піншчыне, а таксама ў Стоўбцах. У 1944–1945 гг. разам з хваляй эміграцыі трапіў у Нямеччыну, дзе арганізаваў беларускія богаслужэнні, потым пераехаў у Рым, дзе выдаў на беларускай мове малітоўнік ”Божым шляхам”. У кастрычніку 1946 г. быў прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1947 г. пачаў выдаваць і рэдагаваць часопіс “Божым шляхам”, таксама выдаваў свае працы, у тым ліку і літаратурныя творы (пад псеўданімам А. Жменя) асобнымі кніжкамі і брашурамі. З 1960 па 1970 г. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі, жыў у Лондане ў будынку Марыян-хаўс, дзе па яго ініцыятыве была заснавана Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны. У гэтай бібліятэцы захоўваюцца рукапісныя і друкаваныя матэрыялы а. Льва, у тым ліку тэксты радыёперадач Радыё Ватыкана за гады яго працы (з 13.01.1971 па 16.05.1977). Гэта некалькі вялікіх тамоў машынапісных старонак, дзе побач з рэлігійнымі тэкстамі сустракаюцца матэрыялы, прысвечаныя беларускім пісьменнікам Якубу Коласу, Янку Купале, Максіму Багдановічу і інш.

Так, 5 красавіка 1971 г. прагучала радыёперадача “Рэлігійны элемент у старажытнай беларускай літаратуры”, 3 мая 1971 г.— “Рэлігійны элемент у сучаснай беларускай літаратуры”, 26 мая 1974 г. —“Рэлігійны элемент у творчасці Янкі Купалы”, 11 лістапада 1974 г. — “Рэлігійны элемент у творчасці Якуба Коласа”.

Звернемся да тэксту апошняй перадачы.

У творчасці Я. Коласа, як адзначаў Л. Гарошка, нягледзячы на моцны антырэлігійны наступ, сустракаецца шмат рэлігійных зваротаў як у выказванні думак самога аўтара, так і яго герояў. Паколькі сваіх тыпаў ён “спісваў з натуры”, дык і іх рэлігійныя выказванні адначасова з’яўляюцца сведчаннем рэлігійнасці беларускага народа. Найбольш характэрныя рэлігійныя звароты бачым ў вершы “Беларусам”:

Ці ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці ж нам сілы Бог не даў? [1]

У вершы “Пытанне”:

Дзе ты, мая доля, дзе ты, я пытаю?
Ці то Бог назначыў у жыцці быць з краю? (I, 65)

З імем Божым звязаны і пажаданні на Новы год:

З Новым годам, з шчасцем новым!
Дай жа Божа, гэты год,
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты ўвесь народ!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дай Бог шчасця вам і долі
Ўсім, хто слёзы праліваў… (I, 47)

Верш “Мужычае жыццё” паэт пачынае зваротам да Бога :

Божа, Божа, твая воля!
(Хоць і, можа, гэта грэх!) (I, 41)

У вершы “Рольнік” паэт адзначае, што селянін ходзіць па полі, “Каб пабачыць сваім вокам, як Бог жыта родзіць”. Спалучэнні “дзякуй Богу”, “дай Божа”, “Божы свет” часта сустракаюцца ў творах Я. Коласа і сведчаць аб шырокім іх ужытку ў жыцці таго часу.

У некаторых вершах сустракаюцца і рэлігійныя думкі, указваюцца законы Божыя, Божая воля. Так, у байцы “Пан і рэчка” паэт кажа:

Калі проці рабіць будзеш
І зачэпіш закон Божы,
Між людзямі ты нягожы,
Сам сабе ты напаскудзіш…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Трудна рэчку утрымаць,
Ёй ўжо Бог сказаў ад веку,
Дзе ваду сваю зліваць… (I, 389)

У вершы “Перад навальніцай” паэт пагаджаецца з Божай воляй:

Ну, то будзе, што Бог дасць… (I, 393)

Тое ж і ў вершы “Пад Новы год”:

Даў Бог людзям Новы год…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Пажадаю я ўсім нам
Шчасця, згоды, волі.
Вып’ю чарку, ну а там…
А там Божжа воля… (II, 345)

У вершы “Журба па вясне” паэт прызнае, што ў прыродзе дзеюцца “Божыя прыгоды”:

Шкода мне прыгоды Божай,
Маладой вясны прыгожай… (I, 399)

Рэлігійным святам прысвечаны наступныя радкі верша “Дзяціныя годы”:

А каляды прыйдуць — над святамі свята,
Саўсім адмянялась будзённая хата:
Здавалася, Бог сам тагды завітаў (I, 406).

Калядам прысвечаны XX раздзел паэмы Я. Коласа “Новая зямля”. Святочныя пачуцці перадаюцца радкамі:

У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасць вечара святога —
Не ўчуеш слова ты благога…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў Сын-Бог… (VI, 177)

Зразумела, што ў такім настроі і калядную вячэру пачынаюць зваротам да Бога:

Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае… (VI, 178)

“Такія ж пачуцці Я. Колас выказвае і пры апісанні “Вялікадня”, — гаварыў а. Л. Гарошка ў радыёперадачы Ватыкана. — З кожнага радка тых вершаў адчуваецца, што гэта ня ёсць толькі апісаньне сямейных звычаяў, але голас яго-нае душы, якая шчыра перажывала рэлігійны настрой”.

Вялікдзень сустракалі споведзью:

Бо трэба ж ім было сабрацца
Паехаць у цэркву спавядацца… (VI, 204)

Я. Колас з уласцівай яму мастацкасцю сцвярджае, што нават прырода святкуе Вялікдзень:

Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як-бы сама прырода тая
Паважнасць свята адчувае…

Не шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.

Звяры Вялікдзень чуюць, птушкі,
І хвоі гэтыя, і елі,
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо святам Божым ўсюды вее… (VI, 205)

Такое ж узнёслае апісанне царквы ў велікодную ноч:

А цэрква, макаўка святая,
Народу поўна, блескам ззяе…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І блізак час святой дзянніцы.
“Хрыстос васкрос!” — з гары-званіцы
Вяшчае першы звон шчасліва… (VI, 207–208)

Л. Гарошка выказваў думку, што рэлігійная вера Я. Коласа з’яўлялася часткай яго светапогляду. Для доказу ён прывёў наступныя радкі паэта:

Не дай Божа сэрцам знікнуць
І душой апасці,
Страціць веру і надзею
На жыццё і шчасце:

Бо без веры і надзеі
Ў свеце ўсё пастыла,
Бо, згубіўшы сэрца крэпасць,
Чалавек — магіла (І, 411).

Але, як адзначаў а. Леў, гэтая рэлігійная вера не закрывала паэту вачэй на тыя бясчынствы, якія рабіліся ў Беларусі ў імя рэлігіі. Аб гэтым сведчаць радкі “Сымона-музыкі”:

Родны край! У Божа імя,
У чэсць косцелаў, царквоў
Паміж дзеткамі тваімі
Многа легла камянёў;
Многа выйшла трасяніны —
Меч, агонь знішчалі край:
З двух бакоў “айцы” дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі

Ў сэрцы кінута была.
І цяпер над намі, брацце,
Яшчэ ў сіле той раздор —
І папоўскае закляцце,
І ксяндзоўскі нагавор (VI, 365–366).

“Такое надужыванне рэлігіі, — адзначыў у радыёперадачы а. Леў, — да нерэлігійных мэтаў і гвалт над сумленнем веруючых людзей годны асуджэння нават з боку найбольш шчыра веруючых людзей, дык ня дзіва, што яго выказаў Колас ў сваёй паэме, у якой апісвае свой “край родны, край прыгожы”, самы мілы “ў свеце Божым”.

У сваім выступленні на радыё а. Л. Гарошка таксама гаварыў, што, нягледзячы на моцны націск бязбожжа пасля 1930 г., у творчасці Я. Коласа застаюцца звароты да Бога, хоць не так часта, як ў першыя гады творчасці. У доказ прыводзіліся радкі твораў, напісаных у 1947 і 1952 гг.:

Я ж, стоячы збоку, за плынь маладую
У сэрцы малітву злажу… (II, 404)

Не ведаю, каму сказаць мне “дзякуй”
За тое, што ізноў сустрэў вясну.
Пражыўшы семдзесят гадоў без гаку,
Сустрэць бы, Божухна, яшчэ адну (II, 414).

“Дык ня толькі ў сваіх творах Колас выказваў сваю рэлігійную веру, — падсумаваў прамоўца, — але ён жыў унутраным рэлігійным жыццём, толькі ў умовах антырэлігійнага наступу гэтаму пачуцьцю даваў волю толькі тады, калі быў адзін. Кампазытар Мікола Равенскі расказвае, што ён быў нявольным сведкам гэткага факту. Незадоўга перад Другою сусьветнаю вайною, летам, ён, не папярэдзіўшы Коласа, ішоў да яго ў адной пільнай справе. Калі падышоў да дому Коласа, пачуў прыгожую царкоўную музыку на скрыпцы. Дзверы дому былі адчынены. Калі ён увайшоў у пакой і стаў пры дзверах, Колас аглянуўся, раптам палажыў скрыпку і паспешна сказаў: “Ты нічога ня чуў і ня бачыў!” Гэты эпізод з жыцця Я. Коласа пераказваўся ў эміграцыйных выданнях у розных інтэрпрэтацыях.

Да творчасці Я. Коласа а. Л. Гарошка звяртаўся і ў іншых радыёперадачах. Так, 25 сакавіка 1973 г. прагучала перадача “Бацькаўшчыну даў Бог”, у якой аўтар сказаў: “І як мы, прыходзячы на свет, ня выбіраем сабе бацькоў, але маем іх ад Бога, таксама маем ад Бога і Бацькаўшчыну. І як у нармальных умовах дзяцей і бацькоў лучыць уроджаная любоў, таксама ў чалавека ёсць уроджаная, гэта значыць, Богам даная любоў да свае Бацькаўшчыны”. Гэту ласку і любоў, падкрэслівалася, выказваў у сваіх творах Я. Колас.

У Беларускай секцыі Радыё Ватыкана ў розны час працавалі а. Тамаш Падзява, а. Кастусь Маскалік, д-р Віктар Сянькевіч, а. Роберт Тамушанскі і інш.

Я. Коласу былі прысвечаны наступныя радыёперадачы В. Сянькевіча: 20 верасня 1980 г. — “Да 98-х угодкаў нараджэння Якуба Коласа” (быў дадзены

кароткі агляд творчасці Я. Коласа і аналіз алегарычнай казкі “Дудар”); 24 чэрвеня 1981 г. — “Вільня ў творчасці Коласа, Купалы і Багдановіча”; 12–13 жніўня 1981 г. — “У 25-я ўгодкі смерці Якуба Коласа” (разглядалася паэма “Сымон-музыка”); 3 лістапада 1981 г. — “Якуб Колас — стваральнік беларускай прозы” (агляд празаічных твораў Я. Коласа); 20 верасня 1982 г. — “З успамінаў Юліяна Пшыркова пра Якуба Коласа “Незабыўныя сустрэчы”; лістапад 1982 г. — “Ідэйная пазіцыя Якуба Коласа ў першых гадох савецкае улады на Беларусі”; 16 жніўня 1982 г. — “Якуб Колас — пясняр і мастак роднага слова”.

Трэба адзначыць, што ўказаныя перадачы пайшлі, не зважаючы на той факт, што Я. Колас у многіх сваіх вершах, прамовах, артыкулах нападаў на Ватыкан і Свяцейшага Айца, якога называў “чорным воранам рэакцыі” (XI, 445).

Вось адпаведныя ўрыўкі:

Маліўся папа Пій за Мусаліні,
Падняўшы ўгору нос, гарбаты, сіні… (II, 354)

І нават сыч, што ў Ватыкане
Сядзіць, як цёмны Вельзевул,
Вам не паможа: час настане
І неўзабаве на вас гляне,
Каб знішчыць вас, ліхіх акул (II, 356).

“У … кампаніі драпежнікаў і рабаўнікоў … “ганаровае” месца належыць і так званаму намесніку апостала Пятра на зямлі, папе Пію XII, старадаўняму жыхару ватыканскага дупла, езуіту інквізітару… [2] Дарэчы, як адзначаў а. Аляксандр Надсан у артыкуле “Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР”, прачытаўшы гэтую прамову, не верыцца, што гэта той самы чалавек, які напісаў “Новую зямлю” і паэму “Сымон-музыка” [3].

Урыўкі з паэм “Новая зямля” і ”Сымон-музыка” друкаваліся ў многіх эміграцыйных выданнях, у тым ліку ў рэлігійных часопісах і календарах. Асабліва папулярнымі былі радкі з частак “Каляды” і “Вялікдзень”. У каментарыях выказваліся думкі, блізкія да тых, якія выказваў у сваёй радыёперадачы а. Л. Гарошка.

Тэма рэлігійнасці закранальася ў даследаваннях навукоўцаў беларускага замежжа. Напрыклад, Уладзімір Глыбінны ў сваёй працы “Доля беларускае культуры пад Саветамі” адзначаў: “Насуперак савецкай антырэлігійнай прапагандзе, Якуб Колас доўгі час пісаў і часам друкаваў творы, поўныя рэлігійнага замілаваньня да прыроды і ейнага творцы — Бога, як, прыкладам, “Сьвятая нядзелька”, казка “Што яны страцілі”, у якой відаць пошукі іншых шляхоў для Беларусі. Рэлігійнымі матывамі ахварбаваная Коласава першая рэдакцыя паэмы “Сымон-музыка”, друкаваная ў часапісе “Вольны сьцяг”, № 4 за 1921 г. Герой паэмы заклікаўся “скарыцца волі Божай”. Нарэшце сама бязьмежная любоў паэты да роднага краю таксама не ўкладывалася ў савецкія рамкі” [4].

Творчасць Я. Коласа разглядалася ў даследаваннях Антона Адамовіча, сярод якіх варта адзначыць наступныя працы:

1. Уступны аналітычны артыкул у кнізе Я. Коласа “Новая зямля” (Мюнхен: “Бацькаўшчына”, 1952);

2. Новая зямля Якуба Коласа: Да эміграцыйнага выдання паэмы // Бацькаўшчына. 1952. № 42–48;

3. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен, 1955;

4. Да творчай гісторыі “Сымона-музыкі” // Бацькаўшчына. 1955. № 4–5, 6;

5. Уступны артыкул “Да творчай гісторыі “Сымона-музыкі” ў выданні паэмы (Мюнхен: “Бацькаўшчына”, 1955).

Апошнія два артыкулы маюць аднолькавую назву, але розныя па зместу.

Рэлігійны элемент у творах Я. Коласа ў даследаваннях А. Адамовіча разглядаецца ў сувязі са змяненнямі ў тэксце паэмы “Сымон-музыка”: “Цэнзурнаму перарэдагаванню падлягалі ня толькі мясьціны твору з “нацыянальным” адценьнем і тэрміналёгіяй. У куды большым памеры закранула яно мясьціны рэлігійнага характару, вельмі частыя ў першай рэдакцыі твору, паколькі рэлігійны мамэнт, як гэта вельмі часта бывае ў творах рамантычных, быў тут разьліты вельмі ж шырака… Гэты шырака разьліты й кідкі ў вочы рэлігійны мамэнт “Сымона-музыкі” якраз і прыцягнуў да сябе найбольшую ўвагу бальшавіцкіх дзейнікаў ды выклікаў адпаведны ціск на аўтара, што й прывяло да адпаведных аперацыяў у тэксьце твору…” [5]



**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

Фрагмент з выстаўкі беларускага мастацтва ў горадзе Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, ЗША, 1980-я гг.

А. Адамовіч сцвярджаў, што ў артыкуле “аднаго з выдатнейшых тымі часамі нацыянал-бальшавіцкіх функцыянераў у друку” — Р. Шукевіча-Траццякова, напісаным у 1926 г., “былі адзначаныя ў якасьці галоўнай заганы першае рэдакцыі паэмы “ярка-рэлігійныя настроі самога аўтара”, а пра апошнюю ейную рэдакцыю з задавальненьнем канстатавалася: “Пад уплывам марксыцкае крытыкі Я. Колас перапрацаваў свайго “Сымона-музыку”, зьмяніў яго канец, рашуча сьцінуў з Сымона раней аблытваўшую яго рэлігійную павуціну”. Гэта сьведчаньне вельмі цікавае, бо яно пацьвярджае якраз ціск цэнзуры на Коласа ў лёгка зашыфраваным выказе пра “ўплыў марксыцкае крытыкі” [6].

Як адзначыў А. Адамовіч, пра першую рэдакцыю паэмы крытыка выказалася толькі ў асобах акадэміка Карскага і Максіма Гарэцкага. Па-першае, іх

нельга залічваць да “марксыцкіх крытыкаў”, па-другое, рэлігійны элемент атрымаў у абодвух аўтараў якраз пазітыўную ацэнку.

Далей А. Адамовіч пісаў: “Ад “марксыцкае крытыкі” антырэлігійна настаўленае бальшавіцкае цэнзуры пацярпелі цэлыя, дый немалыя, а мастацка высокаякасныя кавалкі Коласава “Сымона-музыкі”. Гэтак, найперш зьнік у разьдзеле V-м часткі II укладзены ў вусны Сымона натхнёны гімн Богу-тварцу, што пачынаўся радкамі:

Хто рассыпаў у небе зоры
Бяз канца і бяз чысла?
І каму у тым прасторы
Ночка, дол, лясы і горы
Ў сьпевах кажуць — чэсць, хвала?

Ён быў заменены на гімн зорам. Затое, зусім ужо бясьследна зьнікла без уселякае замены адзначаная акад. Карскім “цэлая вялікая імправізацыя на 114 радкоў, укладзеная ў вусны Сымона, калі яму давялося іграць у карчме перад уцёкамі з яе, дзе, паводле праф. Пятуховіча, “душа беларускага песьняра падчыняецца ў пачуцці шчырае падзякі за радасць адчування ўсёй пекнасьці і прыгажосьці прыроды, і ён вуснамі Сымона пяе гімн космасу:

Радасць Божую, сьветы пазнайце…
Абудзіся, зямля, хвалі Бога…
Асьвяціся і цьма, пазнай радасьць…
Радуйся неба — ўваскросьне зямля…

Асабліва высока ацэненая гэтая мясьціна М. Гарэцкім — як “выдатная па сіле пачуцьця й першая па характву ў нашай паэзіі ода Божай творчасьці, напісаная пад відам натхнёнага граньня Сымонкі ў карчме (“Божы дух вітаў у высі…” )” [7].

Як адзначаў А. Адамовіч, былі перарэдагаваны і іншыя часткі паэмы, дзе ўжывалася “рэлігійная тэрміналёгія”. Пад ціскам цэнзуры былі зроблены змены ў сюжэце “Сымона-музыкі”.

У тым самым 1925 г., калі была надрукавана паэма “Сымон-музыка”, Я. Колас напісаў аповесць “На прасторах жыцця”. Разглядаючы гэты твор, эміграцкі крытык і публіцыст Станіслаў Станкевіч у сваім дасьледаванні “Якуб Колас” пісаў: “У повесці паказваецца, як узгадаваная ў бальшавіцкім духу беларуская вясковая моладзь парывае з старымі традыцыямі і з энтузіязмам кідаецца ў вір новага савецкага жыцьця. У повесьці гэтае збальшавізаваньне моладзі паказанае галоўным чынам ў яе бязбожніцкай акцыі, калі група камсамольцаў разбурае “цудоўны сьвяты калодзеж” і нішчыць крыж з Хрыстовым расьпяцьцем… Бяссумлеву, Коласу было найлягчэй заманіфэставаць свае пазытыўныя дачыненьні да савецкай рэчаіснасьці заакцэнтаваннем ў творы антырэлігійнасьці, бо сярод усіх беларускіх пісьменнькаў Колас і раней, яшчэ ў перыяд нашаніўскі, найглыбей адчуваў крыўду, якую рабіла народу чужое яму нацыянальна духавенства, і найбольш войстра сьцьвярджаў горкую праўду, што праваслаўныя

сьвятары ў сваей бальшыні былі аружжам русыфікацыі, а каталіцкія ксяндзы — палянізацыі”[8].

Працытаваныя словы а. Л. Гарошкі, У. Глыбіннага, А. Адамовіча, С. Станкевіча дапамагаюць нам зразумець як духоўны свет Я. Коласа, так і прысутнасць рэлігійных і антырэлігійных элементаў у яго творах.

---

[1] Колас Я. Зб. тв.: У 12 т. Мн., 1961. Т. 1. С. 26. (Далей цытаты падаюцца па гэтаму выданню з указаннем тома і старонкі.)

[2] Колас Я. Прамова на Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру // Поступ міру. Мн., 1952.

[3] Надсан А. Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР // Божым шляхам. 1952. № 51. С. 4–5.

[4] Глыбінны У. Доследы й матарыялы // Інстытут для вывучэння СССР. Мюнхен, 1958. С. 81.

[5] Склют Р. [Уступны артыкул]. // Колас Я. Сымон-музыка. Мюнхен: “Бацькаўшчына”, 1955.

[6] Адамовіч А. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен, 1955. С. 42.

[7] Тамсама. С. 43.

[8] Станкевіч С. Якуб Колас // Беларускі зборнік. Мюнхен, 1956. Кн. 6. С. 21.



**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

На сустрэчы ў памяшканні таварыства «Уздым» у час Дзён беларускай культуры ў Даўгаўпілсе (1997)



## КОЛЬКІ НАС У СВЕЦЕ?

### БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

Колькасць беларусаў на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі ўвесь час узрастала. Як нядаўна паведаміла “Цэнтральная газета”, паводле перапісу 1959 г. іх было там 844 тыс., 1970 г. — 1051,9 тыс., а ў 1989 г. — ужо 1206,2 тыс. чалавек. З іх свабодна валодалі рускай мовай 33,7 працэнта.

Паводле перапісу 1998 г., у Маскве пражывае 73 тыс. беларусаў, у Маскоўскай вобл. — 56,5 тыс., у Санкт-Пецярбургу — 93,6 тыс., Ленінградскай вобл. — 33,7 тыс. чалавек. З іншых абласцей еўрапейскай часткі Расійскай Федэрацыі найбольш нас, зразумела, у Калінінградскай вобл. — 73,9 тыс. Затым ідуць Мурманская вобл. і Краснадарскі край. На Смаленшчыне беларусаў усяго 21,8 тыс.

Многа беларусаў у Сібіры і на Далёкім Усходзе. Найбольш — у Цюменскай вобл., звыш 49 тыс., найменш — у Кемераўскай вобл., 3,5 тыс. чалавек.

*Леакадзія Мілаш* (Вільнюс)

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ВІЛЬНЯ

Здаецца, зусім нядаўна адзначалася 500 гадоў з дня нараджэння Францыска Скарыны. А ўжо прайшло дзесяць гадоў. То быў уздым нацыянальнага адраджэння — як у Літве, так і ў Беларусі. Многія ўпершыню пачулі імя славутага асветніка. І ён застаўся з намі.

Выразна ўспамінаю падзеі дзесяцігадовай даўнасці: урачыстае адкрыццё дошкі на доме № 19 па вул. Вялікай. З 1522 да 1525 г. тут, у горадзе Вільні, беларускі асветнік Францыск Скарына выдаў першыя друкаваныя кнігі ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1522 г. — “Малую падарожную кніжку”, а трыма гадамі пазней — “Апостал”. На адкрыццё дошкі прыехала прадстаўнічая дэлегацыя з Беларусі, прыйшлі навукоўцы Літвы. Асвяціў дошку ксёндз У. Чарняўскі з Вішнева. Адбылося набажэнства ў Віленскім саборы-базіліцы. Потым у Палацы мастацтваў (цяпер — рэзідэнцыя прэзідэнта Літвы) прайшоў урачысты сход, у якім прыняў удзел намеснік прэм’ер-міністра Літвы Рамуальдас Озалас. Адбылася таксама навуковая канферэнцыя ў Віленскім універсітэце.

**Леакадзія Мілаш** — настаўніца беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе. Сябра рэдкалегіі газеты “Наша слова”. Аўтар многіх літаратуразнаўчых і публіцыстычных артыкулаў. Публікуецца тэкст, прадстаўлены на III Міжнародны кангрэс беларусістаў.

Мы павінны ганарыцца тым, што ў нашым горадзе жыў і тварыў мысліцель такога масштабу і дзейнасць якога мае выключнае значэнне для беларускай нацыянальнай культуры. У той час і я зацікавілася філасофскай спадчынай Ф. Скарыны. Пачала набываць кнігі — яго і пра яго. Сабрала багаты фотаматэрыял з мерапрыемставаў, прысвечаных першаму апосталу беларускага народа, які пачаў справу яго Адраджэння. Вобраз Скарыны — чалавека, філосафа, пісьменніка, гуманіста, вучонага стаў прыцягальным для ўсіх, каму дарагія ідэалы нашага Адраджэння, узвышэнне нашага народа. Духоўная спадчына Ф. Скарыны служыць нам прыкладам, запаветам, як шанаваць і любіць роднае слова, Бацькаўшчыну.

А ў 1997 г. першай беларускай школе ў Вільні было нададзена імя Ф. Скарыны. Некалькі разоў з вучнямі школы я ездзіла ў старажытны Полацк, шмат разоў мы вандравалі па Вільні шляхамі Ф. Скарыны.

У цэнтры нашага горада ёсць кароткая брукаваная вуліца імя Ф. Скарыны. Гэта самая кароткая вуліца ў горадзе. Кажуць, што на ёй жывуць самыя добрыя людзі. А вось што тут самыя цікавыя будынкі — гэта дакладна. Над імі спляліся галіны старых ліп. Можа, тут лунае дух Скарыны? У некалькіх хвілінах хадзьбы адсюль — Троцкая вуліца, дамініканскі касцёл. Да яго прымыкае будынак, на якім бачны знак Скарыны — сонца і маладзік. У мінулым годзе будынак рэстаўравалі. Віленскія актывісты ТБК хваляваліся, каб знак захаваўся.

Побач — вуліца Вялікая, дворыкі Віленскага універсітэта. Тут цішыня, у цяні вербаў — лаўкі. Можна адпачыць, пачытаць, уявіць сябе ў XVI стагоддзі. Можа, тут хадзіў, марыў, тварыў Францыск Скарына?.. Галоўны ўваход. Паднімаемся па лесвіцы: доўгі калідор і бібліятэка універсітэта, вялікая прыгожая зала ў стылі барока. Тут захоўваецца арыгінал скарынаўскай Бібліі. Добразычлівыя супрацоўнікі бібліятэкі неяк дазволілі мне патрымаць у руках каштоўную кнігу, дакрануцца да бессмяротнага. Такія ўрокі гісторыі, літаратуры сталі для мяне і маіх вучняў традыцыйнымі. Яны вучаць галоўнаму: любові да нашай багатай спадчыны, да Бацькаўшчыны.

У нашай школе цяпер стала дзейнічае выстаўка кніг Ф. Скарыны і матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць нашага славутага земляка. 1 лютага, у дзень гімназіі, вучні кожны год робяць малюнкі: хто эмблему школы, хто скарынаўскі знак, а хто і партрэт Скарыны. Потым арганізоўваецца выстаўка малюнкаў, пішуцца сачыненні. Таму ў гэтым годзе вучні актыўна адгукнуліся на прапанову Скарынаўскага цэнтра прыняць удзел у конкурсе “Ф. Скарына ў маім уяўленні”.

Насіць імя Францыска Скарыны не толькі ганарова, але і адказна. Яго запаветы актуальныя і сёння. І мы збіраем весткі пра яго, папаўняем веды пра тытана беларускага Рэнесансу. Ён быў носьбітам лепшых маральных якасцей свайго народа — сціпласці, працавітасці, талерантнасці, за што і цяпер беларусаў паважаюць ва ўсім свеце. Будзем імкнуцца, каб у нашай школе панаваў культ кнігі, духоўнасці, чалавекалюбства. Для гэтага ў нас ёсць усе падставы. Нам працягваць справу Скарыны.



Скульптура кніжніка у віленскім дворыку, дзе была друкарня Ф. Скарыны

26 сакавіка 2000 г. у Вільні, у касцёле св. Барталамея, адбылася св. імша памяці Францыска Скарыны.



## КОЛЬКІ НАС У СВЕЦЕ?

### БЕЛАРУСЫ НА УКРАІНЕ

Паводле газеты “Голас Радзімы”, дыяспара беларусаў на Украіне налічвае каля 500 тысяч чалавек. Нядаўна Міністэрства юстыцыі Украіны зарэгістравала Усеўкраінскае аб’яднанне “Беларусь”, куды ўваходзяць 22 з 27 рэгіёнаў краіны. Старшынёй яго стаў жыхар Харкава Мікалай Кудзелка.



## ПАДАРУНКІ БЕЛАРУСКАГА КАЛЕКЦЫЯНЕРА З ЛАТВІІ

У памяшканні Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея разгорнута выстаўка рэчаў прыватнага калекцыянера Міколы Паўловіча. Гэта не першая ў нас выстаўка прыватных збіральнікаў даўніны, але яна асаблівая тым, што складаецца з экспанатаў, якія ўладальнік падараваў нашаму музею.

Мікола Паўловіч жыве ў Даўгаўпілсе, але паходзіць з Беларусі. Ён нарадзіўся ў 1956 г. у гарадку Карэлічы, што на Гродзеншчыне. У савецкія часы атрымаў адукацыю гісторыка ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце. Цяпер Мікола працуе не па спецыяльнасці, аднак захаваў цікавасць да гісторыі, краязнаўства, збіральніцтва даўніны. Ён падтрымлівае сувязі з беларускімі даследчыкамі, цікавіцца навінкамі літаратуры па гісторыі Беларусі, сам збірае матэрыялы па гісторыі беларусаў у Латвіі. Актыўны сябра беларускага таварыства ў Даўгаўпілсе, ён з’яўляўся дэлегатам з’ездаў беларусаў свету ў Мінску.

М. Паўловіч даволі часта бывае на Браслаўшчыне. Тут, у вёсцы Ахрэмаўцы, жывуць бацькі яго жонкі Вольгі, а ў Браславе — цётка жонкі. Так што частку сваёй даволі вялікай калекцыі Мікола збіраў на Браслаўшчыне.

Першае знаёмства супрацоўнікаў музея з суайчыннікам адбылося ў 1995 г. Тады ён падараваў музею медны віцмундзірны гузік ХІХ ст. Гэтая сустрэча стала пачаткам трывалага супрацоўніцтва, цікавага для абодвух бакоў. Неўзабаве Мікола перадаў у музей шэраг рэчаў, знойдзеных на месцах былога Бяльмонцкага маёнтка, дакументы, побытавыя прадметы з розных вёсак Браслаўшчыны. За чатыры гады М. Паўловіч ахвяраваў музею каля 500 разнастайных экспанатаў. Сярод іх — старадаўнія рэчы, манеты, папяровыя грошы, паштоўкі, дакументы, кнігі, газеты і г. д. Адметна тое, што паступова Мікола стаў дапамагаць музею збіраць гістарычны матэрыял — у прыватнасці, да зборнікаў “Браслаўскія сшыткі”.

У 1997 г. М. Паўловіч выступіў на Браслаўскіх чытаннях і падараваў музею вельмі рэдкую манету — 10 грошай, якія былі адчаканены ў 1831 г. паўстанцамі ў Варшаве. Сёлета ён удзельнічаў у чарговай канферэнцыі. Яго выступленне было прысвечана вядомым выхадцам з Браслаўшчыны, якія жывуць у Латвіі. М. Паўловіч з’яўляецца сябрам Браслаўскага краязнаўчага таварыства, якое дзейнічае пры музеі.

Некаторыя прадметы, падараваныя музею Паўловічам, знайшлі сваё месца ў стацыянарнай экспазіцыі музея, большасць жа папоўніла фонды. Яны экспануюцца на часовых выстаўках. Так, у канцы мінулага года музей выстаўляў калекцыю бутэлек ХІХ–ХХ стст., ці не палову якой складалі падарункі М. Паў-

ловіча (у музей ён перадаў звыш 150 бутэлек).

І вось упершыню рэчы, перададзеныя М. Паўловічам у музей, дэманструюцца на асобнай выстаўцы. Пры яе падрыхтоўцы аказалася, што ўсе прадметы паказаць немагчыма — не хапае месца. Абмежаваліся найбольш цікавымі. Некалькі стэндаў займаюць старажытныя рэчы. Сярод іх — бронзавае царкоўнае ліццё XIX – пач. XX ст., люстэрка пач. XX ст., драўляная скульптура святога, посуд, адмысловая кафля.

Цікава разглядаць падборкі паштовак з рэпрадукцый твораў вядомых мастакоў. Шмат месца займаюць кнігі і дакументы. Змешчаны "Трэбнік" канца XVIII ст., падручнікі, рэлігійныя выданні, часопісы, у тым ліку нумар папулярнага геаграфічнага часопіса "Вокруг света" пачатку стагоддзя. Ёсць цікавыя дакументы з наваколля Дрысвятаў пачатку XX ст., з архіва друйскага святара Сімяона Кузьміча, які жыў тут у 40–50-я гг.




**СТРАТЫ І ІХ ВЯРТАННЕ**

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі стараннем праф. Надзеі Высоцкай адбылася выстаўка старых беларускіх абразоў, сярод якіх было і многа вернутых (у тым ліку з Украіны). Тыя ж абразы з поспехам экспанаваліся ў Іспаніі (на рэпрадукцыі — вокладка буклета)

Хацелася б падкрэсліць наступную акалічнасць: усе экспанаты М. Паўловіч перадаў музею бясплатна. Калі пра гэта даведваюцца наведвальнікі выстаўкі, то часам чуеш: "Дзівак…" Няхай сабе і дзівак! Але заўважым, што гэты свет цікавы менавіта дзівакамі, адданымі сваёй справе, шчырымі і бескарыслівымі. Гэтая выстаўка — даніна пашаны аднаму з іх, беларусу з латвійскага Даўгаўпілса Міколе Паўловічу. Нядаўна ён быў госцем музея, сустракаўся з яго супрацоўнікамі, расказаў пра цікавыя экспанаты, абставіны іх знаходак і выслухаў шмат слоў удзячнасці ў свой адрас.

***Канстанцін Шыдлоўскі,***
*дырэктар музея, краязнаўца,*
*сябра ГА "МАБ"*

## ДЗЕ ШУКАЦЬ РУКАПІСНЫ СЛОЎНІК?

У 1942 г. у Берліне быў падрыхтаваны рукапіс нямецка-беларускага слоўніка. Укладальнікі двухмоўнага лексікона — Васіль Камароўскі, Аляксандр Калоша і Ян Пятроўскі [1].

Ініцыятарам і натхняльнікам усёй працы быў Васіль Камароўскі. Па прычыне хуткага ад'езду з Берліна ён звярнуўся за дапамогай ў дапрацоўцы і вычытцы карэктуры слоўніка да Я. Пятроўскага. "Было да пэўнае ступені дзіўным для мяне, — успамінае Я. Пятроўскі, — што нехта з нас (беларускіх эмігрантаў у Бэрліне ў часы Другой сусветнай вайны) апрацаваў Нямецка-Беларускі слоўнік. Пасьля ўсіх нацыянальна-культурных уздымаў і пасьля заняпадаў большых беларускіх арганізацыяў, раптам тут, у Бэрліне, зусім паважна на адрэзку творчым праявіўся культурны ўздым у межах беларуска-нямецкіх суадносінаў" [2].

Праца над слоўнікам здавалася, на першы погляд, незвычайнай і дзіўнай ў складаных варунках ваенных ліхалеццяў, але, з другога боку, яе выкананне — гэта крок наперад у развіцці беларускага слоўніцтва. "Тут няважным ёсьць, які гэта слоўнік. Важным ёсьць сам факт праяўленае ў выняткавым часе ініцыятывы зь вераю ў свае ўласнае сілы" [3]. Пры больш падрабязным знаёмстве са зместам двухмоўнага лексікона аказалася, што матэрыял патрабаваў значнай апрацоўкі. Не задавальняў таксама і тэхнічны бок выкананай працы. Паміж аўтарам слоўніка і Я. Пятроўскім была ўзгоднена перапрацоўка першай версіі матэрыялаў і падрыхтоўка іх да друку. Удасканальваць слоўнік было складана аднаму чалавеку, і да гэтай працы быў запрошаны інжынер А. Калоша, але апошні па розных прычынах (на жаль, таксама невядомых) не шмат мог дапамагчы. "Супраца ў падобных выпадках — гэта пераважна спадзяваньне, што іншы партнэр учыніць тое, чаго я не дагледзеў. Згэтуль няўхільныя промахі ў самым творы. І наадварот, калі індывідуум ведае, што ад пачатку і да канца ён зьяўляецца адказным за паводжаньне, як і непаводжаньне, тады, у поўным значэньні гэтага слова, ён адчувае адказнасьць за тое, што ён чыніць. І ўсё іншае выходзіць на карысьць самога твору" [4].

З вялікімі цяжкасцямі работа над укладаннем двухмоўнага лексікона была завершана. Ён быў укладзены, як сцвярджае Я. Пятроўскі, у двух частках: нямецка-беларускай і беларуска-нямецкай і налічваў каля 27 000 слоў [5].

4 лістапада 1942 г. была падпісана дамова з друкарняй на набор і выданне слоўніка ў Берліне. На падставе гэтай дамоўленасці 10 снежня 1942 г. першая нямецка-беларуская частка была перададзена ў друкарню. Другая, беларуска-нямецкая, планавалася да выдання пазней.

Для чыткі карэктуры і агульнага азнаямлення з друкаваным варыянтам аўтары мелі на руках першыя старонкі слоўніка прыкладна праз месяц ад пачатку яго здачы ў друкарню. Выпраўленыя старонкі слоўніка былі адасланы ў рэдакцыю, і ўкладальнікі чакалі наступных старонак для апошняга прагляду. Але работа спынілася з-за смерці В. Камароўскага і А. Калошы.

На жаль, невядома, што сталася з машынапісам слоўніка. Другая частка лексікона, беларуска-нямецкая, паводле слоў аўтараў ўспамінаў, таксама ніколі не была надрукавана.

Слоўнік загінуў, загінула разам з ім і цікавая для беларускай лексікаграфіі практыка ўкладання перакладнога беларуска-неславянскага слоўніка. "Цяперака выяўляецца праўда, што, калі толькі ўзьнікаюць спрыяльныя палітычныя ўмовы, характары выступаюць, як грыбы пасьля цёплага летняга дажджу. Яны пачынаюць праяўляць сваю і нявымушаную ініцыятыву ў кірунку творчым, свае прысутнасьці і сцаленьня ўласных сілаў з мэтаю стварэньня новага для сябе культурна-палітычнага жыцьця. І чым болей яны працуюць, тым болей адчуваюць у сабе сілу і праяўленую ўжо энэргію" [6].

***Кацярына Любецкая**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

---

[1] На жаль, нам не ўдалося знайсці дакладных звестак пра аўтараў слоўніка В. Камароўскага і А. Калошу. З "Успамінаў" Я. Пятроўскага вядома толькі, што А. Калоша працаваў ў Берліне інжынерам.

[2] Пятроўскі Я. Мэмуары. Слуцак; Гэйнсвіль, 1988. Кн. 1. С. 320.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама. С. 321.

[5] Лыч Л. Беларуска-нямецкія стасункі на акупаванай тэрыторыі (чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.) // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1996. Кн. 7. С. 55.

[6] Пятроўскі Я. Мэмуары. С. 320.

## З ПОШТЫ РАЗДЗЕЛА

У трэцім нумары за бягучы год Вашага выдання змешчаны цікавы артыкул А. Вабішчэвіча "Так вырашаўся ў 1940 г. лёс бібліятэкі Пінскай семінарыі". У ім прыведзены тэкст дакладной запіскі сакратара Пінскага АК КП(б)Б А. Мінчанкі на імя сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі ад 15 кастрычніка 1940 г., дзе згадваецца прозвішча Горына. Хутчэй за ўсё, тут маецца на ўвазе былы прэзідэнт Акадэміі навук БССР. На жаль, Паўла Горына ў гэты час ужо не было ў жывых, — ён быў расстраляны ў 1938 г., а акадэмію тады ўзначальваў Канстанцін Гораў.

Магчыма, гэтая памылка ўкралася пры перадрукоўцы матэрыялаў, бо А. Вабішчэвіч піша, што "дакумент падаецца без змяненняў", а можа памыліўся аўтар запіскі А. Мінчанка, які не ведаў пра трагічны лёс П. Горына.

***Анатоль Шчарбакоў***

З цікавасцю прачытаў артыкул А. Вабішчэвіча. Хачу звярнуць увагу аўтара на ўспаміны аднаго габрэя з Пінска, надрукаваныя ў эміграцкай газеце "Беларус" у 70-я гг. Ён згадвае, як у 1939 г. паліў пад катлом кніжкі і рукапісы, відаць, з той жа бібліятэкі.

***Міхал Швэдзюк** (Вялікабрытанія)*



***Сяргей Селях*** *(Мінск)*

## ДА БІЯГРАФІІ СПЕВАКА ВЯЧАСЛАВА СЕЛЯХА

Малады, нікому невядомы спявак з невялікага мястэчка Лагойск, Вячаслаў Селях, прыехаў у Петраград, дзе і зрабіў свае першыя крокі на прафесійнай сцэне. У гэты час яму было 25 год ад нараджэння, за плячыма — вучоба ў настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне, невялікі працоўны стаж настаўніка першых класаў і нястрымнае жаданне служыць мастацтву, музыцы.

Да 1910 г. В. Селях паспрабаваў сябе як рэгент хору ў Лібаве і яе спявак-аматар (у яго ўжо вызначыўся добры голас). Ён быў захоплены выступленнямі майстроў оперы Лабінскага, Касторскага і іншых прафесіяналаў, якія прыязджалі ў той час у Лібаву. Падштурхнуты жаданнем спазнаць і авалодаць таямніцай гуку, ведаючы аб сваім выдатным, ад Бога, голасе, ён вырашыў вучыцца далей. Прыехаўшы ў канцы жніўня 1910 г. у Петраград, пасяліўся ў яго прыгарадзе, паступіў у оперны клас кансерваторыі, які вёў тады вядомы артыст, педагог, потым галоўны рэжысёр Марыінскага тэатра І. Тартакоў. Пад яго апекай В. Селях і атрымаў апрацоўку свайго выдатнага голасу — драматычнага барытона-баса.

Яшчэ ў час вучобы ў кансерваторыі В. Селях спрабаваў свае сілы на прафесійнай сцэне. Тады ў Петраградзе існаваў толькі што арганізаваны тэатр Музычнай драмы, якім кіраваў вядомы рэжысёр Лапіцкі. У тэатры для пачынаючых чыталі лекцыі вядомыя артысты і рэжысёры — Альбедзінскі, Пятроўскі, Тарскі і інш. У ім, пад кіраўніцтвам Лапіцкага, і адбыліся першыя крокі на прафесійнай сцэне В. Селяха — спачатку на другарадных ролях, а потым ужо і на больш адказных. Вось як аб гэтым піша ў сваіх успамінах вядомы оперны спявак таго часу С. Левік: “Многие хористы и вторые исполнители после года-двух работы с успехом стали выступать в качестве исполнителей первых партий. В первую очередь это относится к сопрано Немченко, баритону Селяха, басу Луканина... и др.” [1].

Выступаючы ў складзе артыстаў музычнай драмы, В. Селях выконваў ролі ў операх “Кармен”, “Мейстэрзінгер”, “Багема” і інш. З 1912 г. ён пражываў у Петраградзе. Будучы студэнтам, у складзе трупы Музыкальнай драмы В. Селях з мая па лістапад 1914 г. удзельнічаў у творчай паездцы па гарадах Паволжа. Гэтая паездка стала для яго добрай школай авалодання майстэрствам. Скончыўшы на выдатна кансерваторыю, В. Селях спрабуе сябе ў конкурсе, які праводзіўся ў лютым–сакавіку 1915 г. у Марыінскім тэатры. Конкурс быў вялікі, больш за 300 спевакоў марылі атрымаць запрашэнне ў склад артыстаў “Ма-

рыінкі", аднаго з лепшых оперных тэатраў свету. І камісія тэатра, на чале з вядомым дырыжорам Напраўнікам, выбрала толькі двух — Селяха і Лебедзеву (лірычнае сапрана). Тагачасны аўтарытэтны часопіс "Театр и искусство" пісаў: "... на последней пробе голосов в Марьинском театре заметно выделяется молодой баритон В. А. Селях, обладающий исключительным по диапазону и силе голосом. По слухам, артист будет приглашен в состав труппы нашей казённой оперы. В. А. Селях ученик И. В. Тартакова" [2].

Адразу пасля конкурсу В. Селяху быў прызначаны дэбют на сцэне Імператарскага Марыінскага тэатра ў ролі Ігара ў оперы Барадзіна "Князь Ігар". Наш зямляк вытрымаў экзамен з поспехам: "В состав труппы Мариинского театра приняты г-жа Лебедева, с успехом дебютировавшая на днях в "Жизни за царя" (Антонида), г-жа Коломийцева (лирическое сопрано) — без дебюта в "Князе Игоре" [3]. 29 красавіка 1915 г., за подпісам дырэктара Імператарскіх тэатраў сп. Целякоўскага, на яго асабістым бланку, з'явіўся надпіс: "Вячеслав Антонович Селях. Контракт на год тысячу пятьсот (1500 р.) с 1 сентября 1915 по 1 сентября 1916. Теляковский" [4]. З другога боку кантракт падпісаў кіраўнік Канторы Імператарскіх тэатраў барон В. Кусаў. Так здзейснілася мара вясковага хлопчыка з беларускага мястэчка Лагойск стаць акцёрам, узысці на мастацкі Алімп.



Працуючы ў складзе артыстаў "Марыінкі", з 1915 да 1924 г. В. Селях выканаў больш за 25 адказных роляў у розных операх. Самымі выдатнымі былі князь Ігар у оперы "Князь Ігар", Шаклавіты ў "Хаваншчыне", Барыс Гадуноў, Рыгалета, д'ябла ў аднайменных операх. Яго партнёрамі ў спектаклях былі сусветныя зоркі опернай сцэны — Шаляпін, Яршоў, Смірноў, Алчэўскі, Ліпкоўская, Босэ, Угрыновіч.

Маючы такі велізарны прафесійны вопыт, выдатную сцэнічную школу, 1 кастрычніка 1924 г. В. Селях вярнуўся на Радзіму, каб працаваць на карысць беларускай культуры і роднай Бацькаўшчыны. А потым апынуўся ў эміграцыі, дзе і памёр. Таму доўгі час заставаўся для нас невядомы.

Я прасачыў толькі невялікі, найменш даследаваны перыяд дзейнасці В. Селяха — яго ўзыход на прафесійную сцэну ў 1910–1915 гг. Гэты выдатны артыст і чалавек здолеў за сваё жыццё зрабіць столькі, што аналіз і высвятленне яго дзейнасці запатрабуе вялікага часу, асобнага выдання. Даследаванне працягваецца.

---

[1] Левик С. Ю. Записки оперного певца. М., 1955. С. 353.

[2] Театр и искусство. 1915. № 7. С. 110.

[3] Тамсама. № 18. С. 300.

[4] Рускі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 497, воп. 13, с. 940, арк. 2.

# БЕЛАРУСЫ І ЎРАДЖЭНЦЫ БЕЛАРУСІ Ў СВЕЦЕ: МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ БІЯГРАФІЧНЫХ ДАВЕДНІКАЎ

## АНТАНОВІЧ АНТОН



***Антановіч*** *(Antanavičius)* ***Антон*** *(4.06.1910, в. Казлы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. – 27.12.1980, Вільнюс), беларускі і літоўскі мовазнавец-славіст, доктар філалагічных навук (1968).*

А. Антановіч нарадзіўся і вырас у сялянскай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў на Нясвіжчыне. У 1950 г. скончыў Вільнюскі універсітэт. Пасля працаваў у аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі таго ж універсітэта. З 1961 г. яго выкладчык, з 1969 г. — дацэнт. Даследаваў помнікі татара-мусульманскага пісьменства на беларускай мове. Асноўная яго навуковая праца, абароненая як доктарская дысертацыя, — "Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом і іх графіка-арфаграфічная сістэма" (Вільнюс, 1968). Апублікаваў навуковыя даследаванні пра мову судовай (актавай) кнігі Ковенскага земскага суда (1566–1567) і некаторых іншых рукапісаў на беларускай мове. Выявіў 24 кнігі XVII – пачатку XX ст. на беларускай мове, пісаныя арабскімі літарамі.

***Яніна Кісялёва***

## ЖУКОЎСКАЯ-ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНЦІНА

***Жукоўская-Пашкевіч Валянціна*** *(5.02.1916 г. Казельск Калужскай губ., Расія), педагог, лексікограф, грамадска-культурны дзеяч беларускай дыяспары ў Канадзе.*

В. Жукоўская нарадзілася ў беларускай сям'і з Пружанаў, якая ў час Першай сусветнай вайны апынулася ў бежанстве ў Расіі. У 1919 г. вярнулася з бацькамі на радзіму. У Пружанах на выдатна закончыла польскую сямігодку, а затым гімназію гуманістычнага тыпу імя Адама Міцкевіча. У 1935 г. паступіла

на класічны факультэт Віленскага універсітэта, стала сяброўкай Беларускага студэнцкага саюза, дзе выконвала абавязкі скарбніка. Пасля двух гадоў вучобы перавялася на фізіка-матэматычны факультэт. У 1939 г. пры садзейнічанні вядомай асветніцы Кацярыны Стаўбуннік пачала выкладаць беларускую мову ў былой польскай гімназіі і на курсах для настаўнікаў.

У 1944 г. В. Жукоўская была вымушана выехаць у Германію. Аказалася ў лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштэце. Выкладала ў беларускай гімназіі фізіку, з'яўлялася сцяжной беларускага жаночага скаўтынгу. З ліпеня 1949 г. — у Таронта (Канада). У 1950 г. на другім з'ездзе Згуртавання беларусаў Канады выконвала абавязкі сакратара. Тады ж выйшла замуж за беларуса з Ашмянаў Міхася Пашкевіча. У 1950–1960 гг. — арганізатар і кіраўнік беларускага танцавальнага ансамбля. Пасля арганізуе і 15 год кіруе беларускай суботняй школай пры царкве св. Ефрасінні Полацкай у Таронта.



Для вучняў суботняй школы В. Жукоўская-Пашкевіч склала "Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў" (Кліўленд, 1968). Яна аўтар англамоўнага падручніка "Беларуская мова = Fundamental Byelorussian". Таронта, 1974. Т. 1; 1978. Т. 2) — адзінага сістэматычнага і найбольш поўнага курса беларускай мовы за межамі Беларусі. Падрыхтавала вялікі (каля 50 тыс. слоў) "Ангельска-беларускі слоўнік", які рыхтуецца да друку ў Нью-Йорку. Апублікавала артыкул "Навучаньне беларускае мовы ў англямоўным асяродзьдзі".

***Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Таронта, Канада)*

## КУКСЭВІЧ ЗДЗІСЛАЎ

***Куксэвіч Здзіслаў*** *(11.03.1930, Гродна), польскі філосаф-медыевіст, доктар габілітаваны (1967), прафесар звычайны (1982).*

У 1949–1953 гг. З. Куксэвіч вучыўся на філасофскім аддзяленні гуманістычнага факультэта Каталіцкага універсітэта ў Любліне. З 1955 г. і да сённяшняга дня працуе ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Польскай акадэміі навук: спачатку старшым асістэнтам, ад'юнктам, дацэнтам, потым намеснікам дырэктара па навуцы (1968–1981), загадчыкам аддзела гісторыі сярэдневяковай філасофіі (1969–1989). У 1975–1990 гг. кіраваў распрацоўкай агульнадзяржаўнай праграмы "Гісторыя філасофіі ў Польшчы на фоне філасофіі ў Еўропе". Доўгі

час паралельна выкладаў філасофію ў Лодзінскім універсітэце, дзе стварыў "школу медыевістычнай філасофіі", цяпер вядомую ў свеце. З'яўляўся членам праўлення (1972–1979) і віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага таварыства па вывучэнню сярэдневяковай філасофіі.

Галоўныя накірункі навуковых даследаванняў З. Куксэвіча — гісторыя сярэдневяковай філасофіі ў Польшчы і лацінскага авераізму ў Еўропе ў XIII–XVI стст. (парыжскі, балонскі, эрфурцкі асяродкі). Вывучаў польскія, чэшскія, нямецкія, італьянскія, французскія рукапісныя зборы. Вынікам пошукаў з'явіліся невядомыя раней філасофскія творы, а таксама манаграфічныя абагульненні і падручнікі. Сярод іх вылучаюцца даследаванні "Альбертызм і тамізм у Кракаве і Кёльне: Псіхалагічная дактрына" (1973), "Філасофія чалавека: Тэорыя душы" (1975) і інш. З. Куксэвіч з'яўляецца аўтарам падручнікаў "Нарыс сярэдневяковай філасофіі: Філасофія лацінскай філасофскай прасторы" (1973), "Нарыс сярэдневяковай філасофіі: Візантыйская, закаўказскіх краін, славянская, арабская і габрэйская філасофія" (1982), шматлікіх артыкулаў на польскай, нямецкай, французскай і англійскай мовах, тэксталагічных прац. Запрашаўся для выкладчыцкай дзейнасці і навуковых даследаванняў у Парыж, Мюнхен, Кёльн, Зіген, Бохум і Прынстан. Падтрымлівае навуковыя кантакты з беларускімі філосафамі.

***Валянціна Грышкевіч***

## ЛЕХ ГЕНАДЗЬ



***Лех Генадзь Язэпавіч** (6.10.1963, Магілёў), доктар тэхнічных навук, беларускі грамадскі дзеяч.*

Г. Лех нарадзіўся ў сям'і беларусаў. Маці паходзіла з дробнай магілёўскай шляхты, бацька — з сям'і буйных шляхецкіх землеўласнікаў на Заходнім Палессі. У 1980 г. Г. Лех закончыў мастацкую школу № 1, у 1981 г. — Магілёўскую сярэднюю фізіка-матэматычную школу. Завочна вучыўся ў матэматычнай школе пры Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. Пасля заканчэння Маскоўскага інстытута сталі і сплаваў (1986) да 1995 г. працаваў ва Усерасійскім інстытуце лёгкіх сплаваў, займаючы розныя пасады — ад малодшага навуковага супрацоўніка да загадчыка сектара і куратара навуковай тэматыкі па Расіі. У 1993 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1995 г. прай-

шоў папярэднюю абарону доктарскай. Займаецца навукова-даследчыцкай дзейнасцю ў галіне распрацоўкі новых матэрыялаў і тэхналогій для авіякасмічнай прамысловасці. Мае 11 патэнтаў і больш за 20 апублікаваных навуковых прац. З 1995 г. выконвае абавязкі дырэктара ЗАА "ФІЛМЕТ", якая вырабляе алюмініевыя і тытанавыя паўвырабы.

Са студэнцкіх часоў Г. Лех актыўна займаецца грамадска-культурнай дзейнасцю, выступаючы за кансалідацыю этнічных беларусаў у Расіі. Быў сябрам нефармальнага беларускага зямляцтва, якое аб'ядноўвала студэнтаў-беларусаў трох маскоўскіх ВНУ. У 1989 г. уступіў у Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. У 1990 г. абраны ў Раду ТБК. З 1992 г. — першы намеснік старшыні ТБК, з 1995 г. — старшыня ТБК. У 1998 г. выбраны на другі тэрмін да 2001 г. На Устаноўчым з'ездзе беларусаў Расіі ў 1999 г. выбраны старшынёй Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расіі. У 1998 г. уступіў у маскоўскую філію БНФ, у 1993 г. стаў яе старшынёй. Быў дэлегатам на II, III, IV з'ездах БНФ "Адраджэньне". Разам з групай маскоўскіх беларусаў удзельнічаў у падзеях 1991 і 1993 гг. у Маскве. У 1997 г. на канферэнцыі Еўрапейскай секцыі Рады БНР у Вільнюсе выбраны сябрам Рады БНР, яе прадстаўніком у Расіі.

Г. Лех з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Шляхам Скарыны", органа Маскоўскага ТБК, дзе часта выступае з артыкуламі.

***Ірына Тамільчык***

## НАРКЕВІЧ АЛЬГЕРД



***Наркевіч Альгерд Станіслаў Адольфавіч*** *(21.10.1925 г., Вільня, цяпер Вільнюс), вучоны, доктар медыцынскіх навук (1960), прафесар (1971), член камітэта фізіялагічных навук ПАН (1988), член камітэта неўралагічных навук (1991), намеснік старшыні аддзела ПАН у Гданьску (1992).*

А. Наркевіч паходзіў з сям'і, дзе шанаваліся беларускія і польскія карэнні і традыцыі. Навуковая яго дзейнасць звязана з Гданьскай медыцынскай акадэміяй, дзе ён быў асістэнтам (1947–1952), старшым асістэнтам (1952–1954), ад'юнктам (1954–1962), дацэнтам (1962–1971). Доўгі час загадваў кафедрай анатоміі (1964–1996). Праходзіў навуковую стажыроўку ў ЗША (1961–1963, 1990–1991), Вялікабрытаніі (1968), Нарвегіі (1977), Германіі (1983).

А. Наркевіч — аўтар каля 200 публікацый у галіне анатоміі і неўраанатоміі. З'яўляецца ўдзельнікам міжнародных навуковых канферэнцый, членам разнастайных таварыстваў і аб'яднанняў. У 1979–1988 гг. — старшыня, а з 1994 г. — ганаровы член Польскага анатамічнага таварыства. Ганаровы член Балгарскага таварыства анатамістаў, гістолагаў і эмбрыёлагаў (1978), член камісіі міжнародных кантактаў (1994), прадстаўнік PTA у IFAA і інш.

За вялікі ўклад у развіццё навукі наш суайчыннік неаднаразова адзначаўся Польскай акадэміяй навук. Узнагароджаны афіцэрскім крыжам адраджэння Польшчы (1995), мае навуковую ўзнагароду ад прэзідэнта Гданьска (1995). Жыве ў Гданьску.

***Алена Глагоўска*** *(Гданьск, Польшча)*

## ШАРАМЕТ МІКАЛАЙ

***Шарамет Мікалай Спірыдонавіч*** *(23.12.1906, Магілёў), украінскі пісьменнік.*

М. Шарамет нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1929 г. скончыў Кіеўскі інстытут народнай адукацыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў на фронце і ў партызанскім злучэнні А. Фёдарава.

М. Шарамет — аўтар больш 50-ці кніг паэзіі, прозы, публіцыстыкі. Піша паўкраінску. У 1929 г. пабачыў свет яго першы зборнік вершаў "У паходзе". Затым выйшлі паэтычныя кнігі "Бадзёрасць" (1930), "Рапарт "Маладняка" VII Усеўкраінскаму з'езду ЛКСМУ", "Шаржы і пародыі" (1931), "Разгорнутым фронтам", "Крутая траекторыя (Вайсковая паэзія)", "Нас сцяг Леніна вядзе", "Удары брыгад" (1932), "Зіма, вясна, лета, восень" (1933), "Лірыка і вайна" (1934), "Вяршыні" (1938), паэмы "Трактарабуд" (1932) і "Шчорс" (1940). Выдаў кнігі нарысаў "Кроў іх не прапала дарэмна" (1938), "Першыя загоны" (1939), раман "Вартавыя міру" (1936). Займаўся літаратурнай працай і ў час вайны, калі выйшлі зборнік нарысаў і паэтычных твораў "Баявыя сябры" (1941), кніга вершаў "На лініі агню" (1942), зборнік нарысаў "У лясах Украіны" (1944). Тэма Вялікай Айчыннай засталася ў творчасці М. Шарамета галоўнай. Пра гэта сведчаць кніга нарысаў "У партызанскіх атрадах" (1947), паэтычныя зборнікі "Подзвіг" (1967), "Я гераічнае слаўлю" (1972), паэма "Лілія Карастаянава" (1972, у 1977 г. паэма выдадзена ў Сафіі на балгарскай мове).

Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, медалём "Партызану Айчыннай вайны" 1-й ступені.

***Алесь Карлюкевіч***

## ШАХОВІЧ МІХАСЬ

***Шаховіч Міхась** (псеўд. Міхаль Пашкоўскі; 20.11.1953, в. Сакі Беластоцкага ваяв., Польшча — 5.06.2000, Кнышын, Польшча), беларускі і польскі журналіст, паэт, фальклярыст, выдавец. Член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1984 г.*

М. Шаховіч паходзіў з сялянскай сям'і. Вучыўся ў Бельскім беларускім ліцэі. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта (1977). З 1 жніўня 1975 г. да снежня 1984 г. працаваў у беларускім тыднёвіку "Ніва". З 1 студзеня 1985 г. да снежня 1990 г. — адказны сакратар польскага штомесячніка "Kontrasty". Затым кіраваў выдавецкім прадпрыемствам "Памежжа".



На працягу пяці год у "Ніве" вёў рубрыку "З народнай абраднасці", дзе публікаваў тэксты народнай творчасці з польска-беларускага культурнага сумежжа. У такім жа аспекце друкаваў матэрыялы пад рубрыкай "З народных гаворак". У 1982 г. пад яго рэдакцыяй выйшаў навуковы зборнік "Мост праз стагоддзі" — плён дзвюх навуковых сесій пад той жа назвай. Як паэт дэбютаваў у 1974 г. у "Ніве" вершам "Туды". Аўтар васьмі літаратурных зборнікаў — "Праміnанне" (1978), "Святая ноч" (1979), "Вада ў рэшаце" (1984), пераклад на польскую мову "Woda w przetaku" (1990), "Напевы" (1987), "Рапсодыя" (1993), "Кліч" (1993), "Пад сузор'ямі" (1998). Быў членам праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа".

***Ірына Тамільчык***

## ШКЛЯЁНАК МІХАІЛ

***Шкляёнак Міхаіл Міхайлавіч** (2.08.1950, в. Пякоціна Полацкага, цяпер Мёрскага р-на Віцебскай вобл.), расійскі прадпрымальнік, беларускі грамадскі дзеяч і мецэнат.*

М. Шкляёнак нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1954 г. яна пераехала ў Днепрапятроўскую вобл. У 70-х гг. жыў у Томскай вобл. Працаваў у леспрамгасе слесарам, вадзіцелем. Скончыў Томскі тэхнікум грамадскага харчавання, працаваў на розных пасадах у сістэме грамадскага харчавання. У 1980 г. скончыў

Маскоўскі інстытут народнай гаспадаркі імя В. Пляханава. З пачатку 90-х гг. узначальваў акцыянернае камерцыйна-вытворчае таварыства “Рух”, цяпер — генеральны дырэктар індывідуальна-прыватнага прадпрыемства ў Маскве.

М. Шкялёнак — актыўны ўдзельнік кансалідацыйнага руху беларускай дыяспары Масквы і Падмаскоўя. У складзе аргкамітэта ўдзельнічаў у заснаванні Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, быў дэлегатам I і II з’ездаў Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, а таксама — Устаноўчага з’езду Міжрэгіянальнага аб’яднання беларусаў Расіі (сакавік 1999), фундатар шэрагу творчых пачынанняў па папулярызацыі беларускай навукі і культуры, у тым ліку зборніка Скарынаўскіх чытанняў у Маскве — “Вялікаю ласкаю: Ф. Скарына і традыцыі славянскага асветніцтва” (М., 1994), літаратурна-навуковага гадавіка “Скарыніч” (Мн.; М., 1998. Вып. 3), зборнікаў А. Каўкі “Жывом!” (Мн.; М., 1997), “Будам жыць!” (Мн.; М., 1998).

***Аляксей Каўка** (Масква)*

## ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН

***Шукелойць Антон** (19.07.1915, в. Якелеўшчына Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі раён Гродзенскай вобл.), беларускі грамадскі дзеяч у ЗША.*

А. Шукелойць нарадзіўся ў сялянскай сям’і Антона і Бенядзікты з Пецюкевічаў. Бацька меў гаспадарку і гандляваў лесам. Скончыўшы Жупранскую пачатковую школу, хлопчык паступіў у Ашмянскую польскую гімназію. У 1935 г. стаў студэнтам аддзялення славянскай філалогіі і этнаграфіі гуманістычнага факультэта Віленскага універсітэта, які закончыў у 1939 г. Будучы студэнтам, працаваў ва універсітэцкім этнаграфічным музеі, часта выязджаў для збору матэрыялаў у розныя мясціны Беларусі.

Юнак рана далучыўся да грамадскага руху. Яшчэ ў гімназіі ён належаў да беларускага гуртка сацыялістычнай моладзі, якім кіраваў вядомы ашмянскі сацыялістычны дзеяч адвакат Аляксандр Барановіч. А ў Вільні далучыўся да групы студэнтаў, якая выдавала часопіс беларускай сацыялістычнай думкі “Золак”, ідэалагічна набліжаны да эсэраў. Ва універсітэце быў сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацый: Беларускага студэнцкага саюза, Таварыства прыяцеляў беларусаведы (у апошнім старшынстваваў). Спяваў у беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы.

Па далучэнню Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. А. Шукелойць працаваў у школьніцтве на роднай Ашмяншчыне: арганізаваў у раённым цэнтры першую беларускую сярэднюю школу, настаўніцкія курсы і каля 90 беларускіх школ на тэрыторыі былога павета. Выкладаў беларускую мову ў гімназіі, дзе раней вучыўся сам. У 1940 г. стаў дэпутатам Ашмянскага гарадскога савета, загадчыкам гарадскога аддзела народнай асветы і школьным інспектарам-метадыстам Ашмянскага раёна. На другі дзень савецка-нямецкай вайны быў арыштаваны органамі НКУС. Вызваліўся з турмы ў выніку налёту нямецкай

авіяцыі. У часы нацысцкай акупацыі працаваў у аддзеле асветы і культуры Мінскай гарадской управы, дзе ўпарадкоўваў архівы ЗАГСа, часткова знішчаныя ў выніку ваенных дзеянняў. Затым стаў загадчыкам Беларускага гістарычнага музея (потым Краязнаўчы музей). Пасля арганізацыі ў Мінску Беларускага культурнага таварыства А. Шукелойця прызначылі кіраўніком аддзела краязнаўства галоўнай управы. Урэшце быў школьным інспектарам пры аддзеле Беларускай цэнтральнай рады. У 1944 г. выехаў у Германію, імкнуўся адшукаць у Баварыі сляды вывезеных туды беларускіх музейных каштоўнасцей. Пасля вайны працаваў у Германіі ў сістэме школьніцтва лагераў для перамешчаных асоб. У пачатку 1950-х гг. пераехаў у ЗША. Працаваў тавазнаўцам пры Інстытуце вытворчасці моды, у краме вопраткі “Орбакг”.



А. Шукелойць — актыўны ўдзельнік жыцця беларускай дыяпары ў ЗША. Ён шматгадовы старшыня Беларуска-Амерыканскага задзіночання, сябра рэдакцыі газеты “Беларус”, сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. У газетах “Бацькаўшчына” і “Беларус” пад яго прозвішчам і ініцыяламі А. Ш. апублікаваны дзесяткі каштоўных артыкулаў, успамінаў, некралогаў пра мала ці наогул невядомыя падзеі, жыццёвыя лёсы. Ужо ў нашы часы не адзін з маладых эмігрантаў запісваў багатыя на дэталі, каларытныя ўспаміны спадара Антона, — застаецца толькі спадзявацца, што яны з касет пяройдуць на старонкі кніжак.

Дзякучы А. Шукелойцю захаваліся сляды беларускіх музейных скарбаў, вывезеных у час Другой сусветнай вайны ў Германію і Аўстрыю. Цяпер гэтыя звесткі часткова апублікаваны.

А. Шукелойць стаў сапраўдным сімвалам беларускай дыяспары ў ЗША. Як некалі ўсе эмігранты ў ЗША праходзілі праз браму на востраве Эліс, так цяпер усе перасяленцы і госці з Беларусі праходзяць праз яго добразычлівыя рукі, атрымоўваюць ад яго парады і апеку. 22 ліпеня ў зале царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайланд-парку (штат Нью-Джэрсі) адбылося ўрачыстае ўшанаванне А. Шукелойця ў сувязі з яго 85-гадовым юбілеем. Пажадаем жа і мы юбіляру добрага здароўя і сто год плённага жыцця!

***Лявон Юрэвіч*** *(Нью-Йорк)*
*Атрымана па электроннай пошце*

# АД НАС АДЫШЛІ

## ЭДВАРД ВАЙВАДЗІШ

З Латвіі прышла жалобная вестка. 26 сакавіка 2000 г. адышоў у іншы свет найстарэйшы беларускі паэт Эдвард Вайвадзіш. Прыгадаем, што ў 1996 г. Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны быў выдадзены яго першы зборнік “Вершы, паэма, згадкі”. Гэтыя згадкі пад назвай “Мае крокі па дрогкай зямлі” дазваляюць узнавіць асноўныя старонкі жыццяпісу паэта, асветніка і настаўніка.

Вершы Э. Вайвадзіш пачаў пісаць у 20-я гг., на хвалі беларускага нацыянальнага ўздыму ў Латвіі. Яны ўвайшлі ў калектыўны зборнік “Першы крок”, змяшчаліся ў перыядычных выданнях. У 1997 г. паэт стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

***Сяргей Панізнік***

## ТАДЭВУШ ГАШТАЛЬД



Дзяцінства і юнацтва беларусіста Тадэвуша Гаштальда (нарадзіўся ён 1 студзеня 1932 г.) звязана з Віленшчынай і Ашмяншчынай. У 1945 г. яго сям’я перасялілася ў Польшчу, у Старгард-Шчэцінскі, дзе ён закончыў сярэднюю школу. У 1955 г. закончыў Вроцлаўскі універсітэт, пасля чаго працаваў у мясцовай газеце “Głos Koszaliński”.

Потым Т. Гаштальд пачаў займацца гістарычнымі даследаваннямі. Яго цікавіла мінулае новай “малой айчыны” — Памор’я, лёсы палякаў у гітлераўскіх лагерах для ваеннапалонных. Затым перайшоў да беларускай тэматыкі. У выніку ўзніклі кнігі “Загад забіць прыйшоў з Масквы”, “Над Нёманам і Ашмянкай: З гісторыі АК на Віленшчыне і Навагрудчыне”, “Налібоцкая пушча: З гісторыі расследаванняў, барацьбы і забойстваў у 1939–1945 гг.”, “Саветызацыя і русіфікацыя Віленшчыны і Навагрудчыны ў дзейнасці савецкіх партызан у 1941–1944 гг.”. Часта прыязджаў у Мінск дзеля архіўных пошукаў і кантактаў з гісторыкамі.

16 чэрвеня бягучага года мы развіталіся з Т. Гаштальдам на цвінтары ў Кашаліне. Ад нас адышоў яшчэ адзін “крэсавяк”, які ўзнавіў многія фрагменты гісторыі сваёй першай і другой айчыны.

***Здзіслаў Станкевіч*** *(Слупск, Польшча)*



## САНКТ-ПЕТЕРБУРГ И НАЦИОНАЛЬНЫЕ ОБЪЕДИНЕНИЯ, ДИАСПОРЫ, ОБЩЕСТВА:

МАТЕРИАЛЫ МЕЖДУНАРОДНОЙ НАУЧНО-ПРАКТИЧЕСКОЙ КОНФЕРЕНЦИИ. СПб. 21–22.12.1999. СПб., 2000. 110 с.




Распад СССР яскрава высветліў ненавуковасць, шкоднасць тэорыі збліжэння і зліцця нацый і культур, якая разумелася яго кіраўніцтвам як адмова ад нацыянальнага і выключала магчымасць захавання самабытнасці, асаблівасцей нацыянальнага зместу жыцця народаў. Спатрэбіўся пэўны час, каб у новых рэаліях жыцця дзяржаў, якія ўтварыліся на абшарах былога Саюза, пачаўся адыход ад спрошчанай, ідэалагізаванай схемы міжнацыянальных адносін, уніфікацыі нацыянальных культур на велікарускай аснове. У апошнія гады пачалося навуковае асэнсаванне праблем нацыянальных дыяспар, таварыстваў, аб’яднанняў, іх уключэння ў грамадскія адносіны краін пражывання без прымусовай асіміляцыі. Сведчаць аб гэтым матэрыялы трох канферэнцый “Культура этнічных супольнасцей Сібіры”, кнігі “Новыя славянскія дыяспары” (М., 1996), “Этнічныя супольнасці Украіны і тэндэнцыі сацыяльных змен” Т. Рудніцкай (Кіеў, 1998), выданні пра беларусаў у Польшчы, Літве, Латвіі, Расіі і інш. У 2000 г. публікацыі па гэтых праблемах склалі дадзенае выданне, прымеркаванае да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга, які ў нацыянальна-культурным жыцці Расіі займае адметнае месца. Зборнік выйшаў у свет клопатам недзяржаўнай установы — Інстытута даследаванняў Санкт-Пецярбурга і Паўночна-Заходняга рэгіёна, а таксама рэгіянальнай грамадскай арганізацыі “Санкт-Пецярбургскі дом нацыянальных культур”.

У матэрыялах зборніка вучоныя і прадстаўнікі нацыянальна-культурных аб’яднанняў горада і вобласці даводзяць да грамадскасці свае тэарэтычныя высновы і практычны вопыт, развагі, роздум аб набытках і цяжкасцях у дзейнасці іншаэтнічных супольнасцей. У артыкулах Ф. Узунколева асэнсоўваюцца праблемы захавання дыяспар і перспектывы іх развіцця. Аўтар падае сваё разуменне тэрміна “дзяржаўная нацыянальная палітыка” і “дыяспара”, ставіць пытан-

не пра раўназначнасць вызначэнняў “перасяленцы” і “дыяспара”. Ён падкрэслівае неабходнасць фарміравання канцэпцыі дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі і прававых асноў захавання нацыянальных культур і дыяспар, прыняцця Закона аб нацыянальнай палітыцы, Закона аб нацыях, акрэслівае пэўныя крытэрыі іх стварэння. І робіць вельмі слушную выснову: “Неабходны закон …, у якім метадалагічнае абгрунтаванне базіравалася б на гістарычных рэаліях народаў і было б скіравана да каштоўнасцей агульначалавечага і нацыянальнага быцця”. Але на пэўны роздум наводзіць думка аўтара (цытую ў арыгінале): “Имперская Россия, до мозга костей патриархальная и консервативная, делилась не по национальному признаку, а по административным единицам, по губерниям. Исторический опыт показал, что этот путь строительства государства является наиболее приемлемым…” Для беларускага народа ў складзе царскай Расіі ён быў у нацыянальным плане адназначна негатыўным. Час пакажа, ці пойдзе новая Расія па гэтаму шляху, ці хутка пераадолее прававы нігілізм як уладаў, так і насельніцтва, а добрыя, актуальныя законы будуць прымацца і рэалізоўвацца.

На суадносінах права і маралі, ролі маралі ў папярэджванні і вырашэнні міжэтнічнай напружанасці засяродзіўся А. Гусеў. Шэраг матэрыялаў рознага плана прысвечаны гісторыі мінулых гадоў. З артыкула Ю. Чуканава Санкт-Пецярбург паўстае як нашчадак дэмакратычных традыцый Ноўгарада. В. Багачоў паказаў, што ў канцы XIX – пачатку XX ст. царскі рэжым ствараў непераадольныя перашкоды для залічэння ў санкт-пецярбургскую паліцыю прадстаўнікоў нярускай нацыянальнасці. А. Даронченкаў раскрыў ролю пушкінскіх юбілеяў у культурным жыцці паслярэвалюцыйнай эміграцыі. Ролю Санкт-Пецярбурга ў станаўленні комі культуры паказаў А. Церукоў, а ў лёсе А. Чачбы (Шэрвашыдзе) — мастака-дэкаратара пецярбургскіх імператарскіх тэатраў — Б. Аджынджал, татарскага асветніка і публіцыста А. Баязітава — А. Гібатулін.

На багатым практычным матэрыяле Т. Смірнова (дарэчы, удзельніца апошняга форума беларусістаў) раскрывае дынаміку дзейнасці нацыянальных меншасцей Петраграда – Ленінграда ў  даваенны час, змену дзяржаўнай палітыкі ад падтрымкі нацыянальна-культурнай дзейнасці нацыянальных супольнасцей пры іх саветызацыі, скіраванасці на класава-арыентаваную культуру да ліквідацыі з сярэдзіны 30-х гг. усіх формаў арганізаванага нацыянальна-культурнага жыцця нацыянальных супольнасцей. Карціна сучаснага шматкультурнага жыцця ў Санкт-Пецярбургу паказана праз дзейнасць таварыстваў — украінскага (М. Жыгло), латышскага (Н. Разанцава), абхазскага (Б. Анджынджал), армянскага (В. Крбекян), башкірскай нацыянальна-культурнай аўтаноміі Санкт-Пецярбурга і вобласці (А. Бікулава і інш.), культурна-асветнага фонду Балгарыі (М. Пеева), грузінскай дыяспары (Б. Берлава), марыйскага зямляцтва (В. Сокалаў), кіргізскай камісіі Санкт-Пецярбургскага савета вучоных (В. Шаўчэнка і інш.), таварыства інгерманладскіх фінаў у Санкт-Пецярбургскім рэгіёне, на сваёй гістарычнай і этнічнай айчыне (А. Кір’янен), Санкт-Пецярбургскага Дома нацыянальных культур (А. Радзевіч). Сучасныя праблемы ўкраінскай дыяспа-

ры горада абазначыў М. Жыгло.

Свае развагі, але ў больш шырокім аспекце, а менавіта аб праблемах беларускай дыяспары ў Расіі, выклаў беларусіст В. Грыцкевіч, старшыня савета Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На яго думку, практычная цікавасць і навуковая актуальнасць асэнсавання жыццядзейнасці сучаснай беларускай дыяспары ў Расіі вызначаецца, найперш, тым, што яна найбольшая па колькасці з усіх краін свету, дзе аселі беларусы, мае працяглую гісторыю адаптацыі ў расійскім грамадстве і свае спецыфічныя цяжкасці гэтага працэсу ў мінулым і цяпер. Усе аргументы аўтара чытач знойдзе ў зборніку, але на адну перашкоду, якую ён лічыць адной з істотных і цяжкапераадольнай, звярну ўвагу. Гэта — распаўсюджаная ў расійскім грамадстве недастатковая дасведчанасць аб Беларусі, беларусах, беларускай культуры, гісторыі, мове. У прыватнасці, гучаць нават выказванні аб адсутнасці рэальнага беларускага этнасу, самастойнай беларускай мовы. І непазбежна з'яўляецца занепакоенасць лёсам адметнасці, самабытнасці беларускай супольнасці ў Расіі.

На жаль, тэма беларускай прысутнасці ў Санкт-Пецярбургу абазначана ў тэкстах Т. Смірновай і В. Грыцкевіча толькі фрагментарна. Але ж яна была варта асобнага асэнсавання, бо Пецярбург стаў важным цэнтрам беларускай культуры ўжо ў XIX ст. Паводле расійскага перапісу 1897 г. у Пецярбургу пражывала 66,5 тыс. беларусаў. У пачатку XX ст. яны сталі другой па колькасці іншаэтнічнай супольнасцю ў горадзе. Расійская даследчыца гісторыі беларусаў у Расіі Р. Грыгор'ева адзначае, што беларускае зямляцтва Пецярбурга ў пачатку XX ст. мела высокі статус і аказвала вялікі ўплыў на фарміраванне прафесійнай беларускай культуры і самасвядомасці беларусаў. Актыўна беларуская культурна-асветная дзейнасць тут існавала ў 20-я і да сярэдзіны 30-х гг. І калі з'явілася магчымасць, менавіта ў Ленінградзе запрацавала ў 1989 г. адно з першых у СССР Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Яго сябры і беларусісты горада рэгулярна праводзяць навуковыя канферэнцыі "Санкт-Пецярбург і беларуская культура". Думаецца, што сумеснымі намаганнямі беларускіх і расійскіх даследчыкаў будуць падрыхтаваны публікацыі, якія раскрыюць ролю беларускай супольнасці Санкт-Пецярбурга – Петраграда – Ленінграда ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі, захаванні нацыянальнай свядомасці.

У цэлым жа матэрыялы зборніка адлюстроўваюць рэальны стан функцыянавання і развіцця іншанацыянальных культурных супольнасцей у межах аднаго з расійскіх рэгіёнаў, ступень распрацаванасці гэтай тэмы навукоўцамі Санкт-Пецярбурга.

Урэшце, зборнік, які тут рэцэнзуецца, наводзіць на роздум, што ўжо наспела неабходнасць перайсці даследчыкам ад рэгіянальных абсягаў да агульнарасійскага, прыступіць да напісання працы "Беларусы ў Расіі".

***Галіна Сяргеева**, кандыдат гістарычнах навук*

## ЯНКА КУПАЛА І АДАМ МІЦКЕВІЧ; З КУПАЛАЎСКІХ МЯСЦІН:

ЗБОРНІК. МН.: “БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР”, 2000. 160 с.

Як вядома, Міжнародны фонд Янкі Купалы сумесна з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы рэгулярна ладзяць Міжнародныя Купалаўскія чытанні, у якіх прымаюць удзел вядомыя навукоўцы з Беларусі і розных замежных краін. Папярэднія, чацвёртыя, чытанні, што праводзіліся 9 верасня 1998 г., у Год Міцкевіча, былі прысвечаны сувязям беларускага песняра з творчасцю Адама Міцкевіча, які, паводле слоў аўтара “А хто там ідзе?”, “заўсёды з велізарнай павагай і любасцю ставіўся да беларускага народа, яго жыцця і творчасці”. Нядаўна пабачылі свет матэрыялы гэтых чытанняў. Што ж чытач знойдзе ў гэтым зборніку?

Выданне адкрываецца “Словам вітальным” дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы Жаны Дапкюнас — гаспадыні Купалавага дома, дзе і праводзяцца чытанні. Алег Лойка аналізуе характар і асобныя заканамернасці ўспрымання Янкам Купалам творчасці яго вялікага земляка. Таццяна Кабржыцкая даследуе своеасаблівасць успрымання гэтай творчасці пабрацімам Янкі Купалы — украінцам Максімам Рыльскім. Некалькі матэрыялаў прысвечана тыпалагічнаму супастаўленню творчасці двух выдатных сыноў зямлі беларускай. Гэта артыкулы Дзмітрыя Санюка “Янка Купала і Адам Міцкевіч: праблемы тыпалогіі творчасці”, Уладзіміра Конана “Райскія матывы ў паэзіі Адама Міцкевіча і Янкі Купалы”, Рымы Кавалёвай “Семантыка фальклорных вобразаў у творчасці Адама Міцкевіча і Янкі Купалы”, Уладзімежа Стохеля (Варшава) “Янка Купала і традыцыі міцкевічаўскага рамантызму”, Сяргея Дразда (Гродна) “Адам Міцкевіч і Янка Купала ў духоўным дыялогу пад небам Бацькаўшчыны”. На чытаннях, а затым і ў зборніку знайшлі месца і некаторыя перакладазнаўчыя праблемы. Так, Анатоль Верабей прааналізаваў купалаўскі пераклад драмы Ежага Жулаўскага “Эрас і Псіха”, Ірына Лапцёнак разгледзела жыццёвасць купалаўскіх перакладчыцкіх традыцый ва ўзноўленай Язэпам Семяжонам паэме “Пан Тадэвуш”, аўтар гэтых радкоў спыніўся на дакупалаўскіх перакладах з Адама Міцкевіча. Магчыма, як ніколі раней даследчыкі звярнулі пільную ўвагу на праблемы літаратурнага мадэрнізму. Тон тут, несумненна, задала Ірына Багдановіч сваім грунтоўным дакладам “Патрыятычны “неарамантызм” Янкі Купалы ў святле міцкевічаўскай традыцыі еўрапейскага мадэрнізму”. Гэты тон падхапілі Валерый Максімовіч (“Янка Купала і эстэтыка беларускага мадэрнізму”), Любоў Тарасюк (“Паэзія Янкі Купалы ў кантэксце літаратурнага руху Маладой Польшчы), Галіна Тычка (“Тэорыя “голай душы” Станіслава Пшыбышэўскага ў ранняй творчасці Янкі Купалы”). Як відаць з пералічаных публікацый, кніжка сваёй арыгінальнай і даволі разнастайнай тэматыкай можа зацікавіць многіх купалафілаў і міцкевічафілаў.

У зборніку матэрыялаў Купалаўскіх чытанняў на гэты раз ёсць і навінка. Гэта — уключэнне ў яго раздзела “З купалаўскіх мясцін”, змест якога склалі выступленні на Другіх Міжнародных Ракаўскіх чытаннях “Ракаўскія Паўночныя Афіны: Мар’ян Здзяхоўскі, Эліза Ажэшка і праблемы культурных кантактаў

народаў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы” (Ракаў, 10 верасня 1998 г.). Чаму са шматлікіх мясцін, звязаных з біяграфіяй песняра, абраны менавіта Ракаў, што ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці? Бо якраз у Ракаве (дакладней, у Паморшчыне, якая цяпер злілася з Ракавам) бацькі паэта перад самым яго нараджэннем арандавалі кавалак зямлі ў братоў Здзяхоўскіх, “из которых в настоящее время в Польше один — профессором (был и министром), а другой — романист, литератор” (з ліста Я. Купалы да Л. Клейнбарта ад 23.11.1927 г.). А па-другое, ракаўцы запачаткавалі навуковыя чытанні, якія цяпер перараслі ў міжнародныя. Чытанні 1998 г. былі прысвечаны не толькі гісторыі Ракава і Ракаўшчыны, але і Здзяхоўскім, у якіх працавалі бацькі паэта, з якімі яны не раз сустракаліся, гутарылі і да якіх у Ракаў, дарэчы, прыязджала ў 1908 г. Эліза Ажэшка (менавіта яна назвала Ракаў Паўночнымі Афінамі). Уводзячы раздзел “З купалаўскіх мясцін” у зборнік, складальнікі яго спадзяюцца, што пачын ракаўцаў падхопяць жыхары іншых “купалаўскіх” гарадоў і вёсак, і там, дзе пясняр жыў і тварыў (Лагойшчына, Вільня, Пецярбург, Масква, Смаленск і інш.), правядуць належныя навуковыя канферэнцыі. А матэрыялы гэтых канферэнцый арганічна ўвойдуць у склад наступных зборнікаў з матэрыяламі Купалаўскіх чытанняў.




Раздзел “З купалаўскіх мясцін” таксама вельмі багаты. Яго высокі ўзровень і арыгінальнасць вызначаюць публікацыі Алега Лойкі “Тут зямля такая” (лірычны маналог пра свае дачыненні да Ракаўшчыны), Базыля Бялаказовіча (Варшава) “Мар’ян Здзяхоўскі пра байранізм Адама Міцкевіча”, Уладзіміра Конана “Мар’ян Здзяхоўскі і Уладзімір Самойла: спрэчка пра беларускую душу”, Таццяны Кабржыцкай “Мар’ян Здзяхоўскі і Украіна”, Пятра Рагойшы “Ракаўская старонка ў жыццяпісе Элізы Ажэшка”, Эдварда Зайкоўскага “Этнічная гісторыя Ракаўшчыны”, Фелікса Янушкевіча “Ракаўска-івянецкая кераміка”. Вядомая англійская паэтэса і перакладчыца беларускай паэзіі Вера Рыч (Лондан) не толькі выступіла на Ракаўскіх чытаннях, але і прачытала свой акраверш-экспромт “Ракаў”, тэкст якога (разам з факсіміле) змешчаны ў зборніку.

Патрэбна дадаць, што зборнік багата ілюстраваны фотаздымкамі з Купалаўскіх і Ракаўскіх чытанняў. У дадатку да яго, які называецца “Купалаўская Міцкевічаніяна”, змешчаны ўсе пераклады Янкі Купалы твораў Адама Міцкевіча, а таксама тэкст выступлення народнага паэта Беларусі на веча-

ры з нагоды 85-годдзя з дня смерці польскага паэта. Набыць гэты зборнік (як і зборнікі папярэдніх Купалаўскіх чытанняў) можна ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.

А наперадзе — чарговыя чытанні, дапасаваныя да другой сесіі ІІІ Міжнароднага кангрэса беларусістаў. 4 снежня гэтага года адбудуцца Ракаўскія чытанні "Поліэтнічная культура заходнебеларускага мястэчка (на прыкладзе Ракава)", а праз два дні, 7 снежня, — Пятыя Купалаўскія чытанні "Янка Купала і праблемы беларускага самапазнання". Арганізатары іх чакаюць і дакладчыкаў-навукоўцаў, і зацікаўленых слухачоў.

***Вячаслаў Рагойша**, прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы*

## В. А. КРУТАЛЕВИЧ. ИСТОРИЯ БЕЛАРУСИ: СТАНОВЛЕНИЕ НАЦИОНАЛЬНОЙ ДЕРЖАВНОСТИ (1917–1922 г.).

МИНСК: "ПРАВО И ЭКОНОМИКА", 1999. 385 с.

Чытачу добра знаёма імя доктара юрыдычных навук прафесара Вадзіма Кругалевіча, кнігі якога набылі аўтарытэт сваёй навуковай грунтоўнасцю, вылучыліся сярод даследаванняў па гісторыі дзяржаўнасці Беларусі. Апошняя праца аўтара з'яўляецца шматпланавым манаграфічным даследаваннем, прысвечаным праблемам усталявання і юрыдычнага зацвярджэння беларускай дзяржаўнасці ў першай чвэрці XX ст. Яна лагічна працягвае тры папярэднія кнігі аўтара: "Нараджэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі: На шляху да абвяшчэння рэспублікі. Кастрычнік 1917 – снежань 1918 гг." (1975), "Нараджэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі: Абвяшчэнне рэспублікі. Разгортванне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Лістапад 1918 – люты 1919 гг." (1979), "На шляхах нацыянальнага самавызначэння. БНР – БССР – РБ" (1995).

У апошняй працы В. Круталевіч працягвае даследаванне драматычнага перыяду жыцця беларускага народа часоў жорсткай барацьбы палітычных сіл за ўладу, змагання за ўсталяванне нацыянальнай дзяржавы ва ўмовах акупацыі замежнымі войскамі і застаецца паслядоўным прыхільнікам погляду на гістарычную пераемнасць дзяржаўна-прававых форм як асноўнага прынцыпа дзяржаўнага будаўніцтва. Юрыдычнай асновай працэсу ўсталявання і рэалізацыі дзяржаўнай незалежнасці сучаснай Беларусі ён разглядае стварэнне беларускай савецкай дзяржавы ў 1919–1920 гг. У кнізе паказаны складаны працэс самавызначэння Беларусі ва ўмовах барацьбы палітычных сіл і ўздзеяння ваенных і знешнепалітычных фактараў на гэты працэс. Аўтар даследуе падзеі нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння на шырокім гістарычным і міжнародна-палітычным фоне, акцэнтуе ўвагу на прычынах перамогі і ўсталявання савецкай формы дзяржаўнасці. У кнізе аналізуюцца праблемы абвяшчэння дзяржаўнасці Беларусі і вызначэння яе тэрыторыі, стварэння цэнтральных і мясцовых органаў улады і кіравання, распрацоўкі нацыянальнага заканадаўства і формаў прававых адносін з іншымі дзяржавамі, што пашырае дыяпазон па-

пярэдніх даследаванняў аўтара.

Ясная, лагічная структура кнігі, якая складаецца з 24 глаў і 90 параграфаў, падрабязная тэматычная дыферэнцыраванасць пераканаўча сведчаць пра глыбокае веданне аўтарам гістарычнага матэрыялу і дазваляюць раскрыць супярэчлівы і адначасова ўзаемазвязаны працэс усталявання і развіцця нацыянальнай дзяржаўнасці. Застаючыся паслядоўным у сваіх метадалагічных і навуковых падыходах, аўтар уступае ў навуковую палеміку з іншымі даследчыкамі па найбольш важных пытаннях: палітычная прырода БНР, прычыны стварэння Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі, характар СССР як федэратыўнай дзяржавы і інш. Разглядаючы складаныя і часта спрэчныя праблемы развіцця нацыянальнай дзяржаўнасці, аўтар імкнецца да захавання прынцыпу аб’ектыўнага і дакладнага асвятлення падзей і працэсаў, а таксама ўзважанага разгляду навуковых падыходаў сваіх апанентаў.




Важнае месца ў працы адведзена аналізу дзейнасці арганізацый нацыянальна-адраджэнскага накірунку, якія групаваліся вакол Рады Беларускай Народнай Рэспублікі як палітычнага цэнтра. У кнізе чытач знойдзе значны матэрыял, прысвечаны беларуска-польскім адносінам і палітыцы краін Антанты па праблемах дзяржаўнага самавызначэння Беларусі. Заслугоўвае ўвагі аналіз аўтарам кола пытанняў, звязаных з заключэннем Брэст- Літоўскага (1917) і Рыжскага (1921) дагавораў і іх вынікамі па вызначэнню дзяржаўнай тэрыторыі Беларусі. Асобная глава прысвечана поглядам Янкі Купалы на шляхі будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы. У апошніх главах кнігі аўтар разглядае праблемы ўдзелу БССР у стварэнні СССР і адносіны БССР да эміграцыі.

Кніга В. Круталевіча дае чытачу магчымасць азнаёміцца з шырокім колам навуковых праблем па гісторыі дзяржаўнасці Беларусі, уявіць важнейшыя палітычныя падзеі XX ст. Актуальнасць пытанняў, разгледжаных у даследаванні, глыбокі аналіз падзей вылучаюць кнігу з кола іншых работ па гэтай тэматыцы і будуць спрыяць далейшаму вывучэнню гісторыі дзяржаўнасці Беларусі.

Вадзім Круталевіч не толькі выдатны вучоны, якому падуладныя і права, і гісторыя, і сацыялогія, але таксама адметны публіцыст. Шлях В. Круталевіча ў навуцы быў няпростым, патрабаваў мужнасці і самаахвярнасці. Але ж нездарма сярод яго ўзнагарод — салдацкі ордэн Славы.

***Галіна Дзербіна****, кандыдат юрыдычных навук,*
***Віталь Скалабан****, кандыдат гістарычных навук*

## КОКТЫШ К. Е. ТРАНСФОРМАЦИЯ ПОЛИТИЧЕСКОГО РЕЖИМА В РЕСПУБЛИКЕ БЕЛАРУСЬ. 1990–1999.

М.: МОСКОВСКИЙ ОБЩЕСТВЕННЫЙ НАУЧНЫЙ ФОНД, 2000. 188 с.

Нядаўна ў сталіцы Расійскай Федэрацыі выйшла кніга маладога даследчыка, выпускніка Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін Міністэрства замежных спраў РФ, кандыдата палітычных навук Кірыла Яўгеньевіча Коктыша, які там жа цяпер і выкладае. Аўтар з'яўляецца нашым земляком, бо нарадзіўся ў Мінску і па нацыянальнасці беларус. У сваім даследаванні абапіраецца на шматлікія афіцыйныя матэрыялы, вынікі сацыялагічных даследаванняў, працы айчынных і замежных аўтараў.




Кніга ўяўляе сабой высокакваліфікаванае паліталагічнае даследаванне і складаецца з уводзін, дзвюх глаў, заключэння і бібліяграфіі. Ва "Уводзінах" К. Коктыш абгрунтоўвае актуальнасць, навізну, навуковую і практычную значнасць падобнага даследавання. У першай главе "Станаўленне палітычнага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь" падрабязна разглядаюцца пытанні фарміравання эканамічнай і знешняй палітыкі, палітычнай сістэмы Рэспублікі Беларусь пасля набыцця ёй дзяржаўнага суверэнітэту. У другой главе "Трансфармацыя палітычнага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь" аналізуюцца складаныя, неадназначныя праблемы радыкальных змен у сферы палітычнай сістэмы, эканамічнай і знешняй палітыкі Беларусі на працягу апошніх пяці гадоў. У "Заключэнні" аўтар падводзіць асноўныя вынікі свайго даследавання, дае ўласны прагноз развіцця падзей у бліжэйшай перспектыве. Ён падкрэслівае, што пасля распаду Савецкага Саюза адной з вызначальных рысаў грамадска-палітычнага жыцця было настойлівае жаданне часткі тагачаснай беларускай эліты рэстаўраваць былую палітычную сістэму, аднавіць (у некалькі трансфармаваным выглядзе) ранейшую савецкую ідэалогію, паскорыць станаўленне новай адзінай саюзнай дзяржавы. Падобныя намаганні аўтарам разглядаюцца як практычна бесперспектыўныя, няздольныя вывесці нашу краіну з татальнага сістэмнага крызісу. Праведзенае даследаванне вызначаецца такімі дадатнымі рысамі, як багатая крынічная база, аптымальная сучасная методыка, шырокая агульная эрудыцыя аўтара, яго ўменне аб'ектыўна аналізаваць складаныя грамадскія з'явы і працэсы, рабіць глыбокія (хаця часам і дыскусійныя, спрэчныя) высновы, выказваць футуралагічныя меркаванні і да т. п.

Шчыра вітаючы выхад такой змястоўнай і цікавай кнігі, хочацца пажадаць

маладому “беларуска-расійскаму” навукоўцу новых творчых здзяйсненняў у галіне даследавання разнастайных праблем нашай Бацькаўшчыны.

***Эдуард Дубянецкі**, кандыдат гістарычных навук*

## **GIEROWSKA-KALLAUR JOANNA. STRA¯ KRESOWA A ZARZ¥D CYWILNY ZIEM WSCHODNICH: WSPÓ£DZIA£ANIE CZY RYWALIZACJA?** WARSZAWA: NERITON, 1999. 129 s.




Першае пачуццё, якое ўзнікае ў беларускага чытача названай невялікай па аб’ёму працы, — пачуццё зайдрасці: “Ну вось, у Польшчы ўжо і аб гэтым напісалі. А мы зноў адстаём”. Такое пачуццё ўзнікае натуральна, бо кніга польскай даследчыцы адносіцца да праблемы, аднолькава блізкай як палякам, так і беларусам. Яна прысвечана аднаму з аспектаў палітыкі, якую вяла польская дзяржава на ўсходніх землях былой Рэчы Паспалітай у час свайго адраджэння (1918–1920). Гэта быў час, калі ад здольнасці Польшчы знайсці аптымальны спосаб суіснавання з народамі былых “усходніх ускраін” Рэчы Паспалітай у вялікай ступені залежала бяспечнасць, трываласць яе месца ў пасляверсальскай Еўропе. Аўтарка разглядае дзейнасць на гэтай тэрыторыі так званай Стражы крэсовай, якая выступала як грамадская арганізацыя, і Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель (ГУУЗ) — часовага органа польскай дзяржаўнай улады на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, занятых польскімі войскамі.

Больш блізкае знаёмства з працай польскай даследчыцы дазваляе пазбавіцца ад таго першага пачуцця, якое яна выклікае. Высвятляецца, што яна з’яўляецца фрагментам манаграфічнага даследавання, прысвечанага дзейнасці ГУУЗ, які аўтарка ўзбагаціла фактычным матэрыялам і прапанавала ў якасці самастойнага выдання. Аднак пры гэтым, на жаль, яна не прыдала неабходнай завершанасці апублікаванаму раздзелу. У публікацыі адсутнічае неабходная пастаноўка праблемы разам з хоць бы кароткім гістарыяграфічным нарысам, не створаны канкрэтна-гістарычны кантэкст, у якім разгортвалася дзейнаць дзвюх названых вышэй арганізацый. Яго стварэнне патрабавала б ад аўтаркі адпаведнай характарыстыкі часу і прасторы. Няма і заключэння, у якім можна было б паспрабаваць даць выразны адказ, наколькі гэта дазваляюць прааналізаваныя крыніцы, на пытанне, пастаўленае ў падзагалоўку:

супрацоўніцтва ці суперніцтва вызначалі характар адносін паміж Стражай крэсовай і Грамадзянскім упраўленнем Усходніх зямель? Нават бібліяграфічны апарат, у працах польскіх гісторыкаў звычайна багаты, тут абмежаваны пастаронкавымі спасылкамі на крыніцы. Так што беларускі чытач гэтай кніжкі можа супакоіцца: працы ў тым накірунку даследаванняў, які абрала для сябе шаноўная пані Героўска-Калаур, хопіць для многіх.

Пры ўсіх арганічных хібах працы польскай даследчыцы неабходна прызнаць, што яе выданне апраўдваецца станоўчым укладам у распрацоўку пытання аб усходняй палітыцы Польскай дзяржавы ў час, які стаў пераломным як для Польшчы, так і для беларускага народа. Гэты ўклад заключаецца, перш за ўсё, ва ўвядзенні ў навуковы ўжытак двух багатых комлексаў дакументаў: Стражы крэсовай, які захоўваецца ў Архіве новых актаў у Варшаве, і ГУУЗ з аддзела стардрукаў і рукапісаў Публічнай бібліятэкі Варшавы (частка матэрыялаў — з Дзяржархіва Літоўскай Рэспублікі). Для большасці беларускіх даследчыкаў гэтыя дакументы, на жаль, недаступныя. Цяпер яны маюць магчымасць выкарыстаць невялікую іх частку, апублікаваную ў дадатку да кнігі. Але гэтым значэнне працы польскай даследчыцы не абмяжоўваецца. Прасочваючы няпростыя ўзаемаадносіны дзвюх арганізацый, аўтарка дае магчымасць зацікаўленаму чытачу пашырыць дыяпазон засваення праблематыкі польскай усходняй палітыкі ў перыяд, калі галоўнай яе задачай было адкінуць Расію, адну з дзяржаў-акупантаў, як мага далей на ўсход, за межы былой Рэчы Паспалітай. Беларускі нацыянальны рух з'яўляўся натуральным саюзнікам Польшчы ў гэтай яе палітыцы. Таму відавочна, што азнаямленне з працай пані Героўскай-Калаур было б карысным для шырокага кола беларускіх гісторыкаў. Зыходзячы з гэтага, зробім яе кароткі агляд.

Стража крэсовая была створана ў лютым 1918 г. дзеля абароны Холмшчыны ад пагрозы яе перадачы ў склад Украінскай дзяржавы, якая нараджалася ў гэты час і шукала падтрымкі з боку Германіі. Згодна са статутам, зацверджаным у красавіку 1918 г. ведамствам люблінскага генерал-губернатара, тэрытарыяльны абсяг дзейнасці арганізацыі быў пашыраны на ўсе землі, "што ляжаць на ўскраінах Польшчы" (с. 7, а таксама тэкст статута на с. 77–81). Пад Польшчай разумелася тэрыторыя Рэчы Паспалітай да яе падзелаў. Ад каго неабходна было сцерагчы яе "крэсы", у статуце не гаварылася, але гэта ясна відаць з практычнай дзейнасці Стражы: яна імкнулася забяспечыць польскую прысутнасць на "крэсах" і польскія правы на іх у будучай пасляваеннай Еўропе.

Аб узнікненні ГУУЗ аўтарка піша так: яно з'ўлялася дальнабачнай спробай "рэалізацыі польскага дзяржаўнага інтарэсу ў форме, якая не ўступала ў супярэчнасць з інтарэсамі іншых нацый", што фарміраваліся на гэтых землях (с. 9). Дальнабачнасць выяўлялася ва ўгрунтаванні ГУУЗ на федэрацыйнай ідэі Ю. Пілсудскага. Пахвалу за дальнабачнасць стваральнікі ГУУЗ, безумоўна, заслужылі, хаця аўтарка тут не піша, што сам кіраўнік Польскай дзяржавы глядзеў на гэту ідэю і адпаведную ёй палітыку як на тактычны сродак, што мог быць

адкінуты ў іншых умовах [1]. Але тады ён быў неабходны, перш за ўсё, для ўздзеяння на пазіцыю заходніх дзяржаў па пытанню аб граніцах у пасляваеннай Еўропе, дзе ідэя самавызначэння нацый была вельмі папулярнай [2]. Орган дзяржаўнага кіравання ўсходнімі тэрыторыямі былой Рэчы Паспалітай быў створаны адразу пасля ўступлення на іх польскага войска ў лютым 1919 г. — спачатку як Вайсковае ўпраўленне зямель Літвы і Беларусі (у іншым месцы аўтарка называе яго Вайсковым упраўленнем крэсаў усходніх; у літаратуры ўжываецца назва Вайсковае ўпраўленне ўсходніх зямель). 19 лютага на пасаду генеральнага цывільнага камісара пры гэтым упраўленні быў прызначаны вядомы польскі гісторык, дырэктар літоўска-беларускага дэпартамента Міністэрства замежных спраў Л. Калянкоўскі. Назначэнне на пасаду галоўнага адміністратара ўсходніх зямель высокага чыноўніка з МЗС, трэба меркаваць, не было выпадковым: яно павінна было падкрэсліць, што польская ўлада ідзе на гэтыя землі як часовая, каб дапамагчы мясцоваму беларускаму і ўкраінскаму насельніцтву вызначыць сваю будучыню. Гэтую ідэю выказаў і Ю. Пілсудскі ў сваёй вядомай адозве да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага 22 красавіка 1919 г.

15 красавіка 1919 г. быў утвораны інстытут генеральнага камісара Усходніх зямель, на пасаду якога дэкрэтам Пілсудскага быў прызначаны Ежы (Юрый) Асмалоўскі. Л. Калянкоўскі заставаўся на сваёй пасадзе да 5 мая 1919 г. Аб гэтых падзеях аўтарка піша не надта ясна, таму для іх рэканструкцыі звяртаемся да іншай літаратуры [3]. Відаць, з 15 красавіка да 5 мая паралельна існавалі дзве інстанцыі з аналагічнымі функцыянальнымі абавязкамі: генеральны грамадзянскі камісар пры Вайсковым упраўленні і генеральны камісар Усходніх зямель. Змена тытула, атрыманага Е. Асмалоўскім, была не фармальным актам: тым самым, як можна меркаваць, падкрэслівалася незалежнасць новай інстытуцыі ад франтавога камандавання, яе палітычны характар. Генеральны камісар прызначаўся галоўнакамандуючым (гэта значыць — асабіста Ю. Пілсудскім) па прадстаўленню старшыні Рады міністраў. Спачатку ён падпарадкоўваўся галоўнаму камандаванню, з 10 кастрычніка 1919 г. — галоўнакамандуючаму асабіста, а з чэрвеня 1920 г. быў падпарадкаваны Радзе міністраў, атрымаўшы пры гэтым права голасу на яе пасяджэннях. 12 мая 1919 г. галоўнакамандуючы (ён жа — і кіраўнік дзяржавы) зацвердзіў пастанову Рады міністраў аб утварэнні Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель. Да часу стварэння яго структуры цывільную ўладу на занятых Усходніх землях працягваў выконваць непасрэдна генеральны камісар. У чэрвені 1919 г. у структуры Цывільнага ўпраўлення былі створаны Віленская і Брэсцкая акругі, у верасні — Валынская і Мінская. Яны дзяліліся на паветы, а тыя — на гміны. Да 10 кастрычніка кіраўнікі акруг і паветаў называліся камісарамі, але паколькі гэта назва часткай насельніцтва ўспрымалася негатыўна, то іх перайменавалі адпаведна ў начальнікаў акруг і старостаў. Камісары засталіся толькі ў гарадах. Сядзібай генеральнага камісара спачатку была Варшава, а з сярэдзіны мая 1919 г. — Вільня. З гэтага часу генеральны

камісар меў у Варшаве свайго прадстаўніка пры Радзе міністраў. На гэтую пасаду быў прызначаны Станіслаў Касакоўскі, вілянчук, аўтар цікавага дзённіка, у якім апісваюцца гэтыя падзеі [4]; на жаль, ён не выкарыстоўваецца беларускімі гісторыкамі.

За час існавання ГУУЗ праз яго структуры прайшло амаль 25 тыс. служачых рознага ўзроўню. Гэтыя кадры рэкрутаваліся, у асноўным, з Камітэта абароны крэсаў, створанага так званай Літоўскай камісіяй яшчэ ў 1917 г. У яе склад уваходзілі, як піша аўтарка на с. 11, “усе польскія партыі, а таксама прадстаўнікі Гродзенскай і Навагрудскай зямлі і Заходняй Беларусі” (верагодна, Міншчыны. — *Р. Л.*).

На наступных старонках сваёй працы Ё. Героўска-Калаур не надта паслядоўна апявядае аб дзейнасці Стражы крэсовай на Беларусі і Валыні і адносінах, якія ў яе складваліся з ГУУЗ. Спынімся на тых яе аспектах, якія ў першую чаргу зацікавяць беларускага чытача. Перш за ўсё — аб фінансаванні. Стража крэсовая як грамадская арганізацыя мела магчымасць карыстацца добраахвотнымі ахвяраваннямі. Але для той маштабнай працы, якую яна разгарнула на ўсходзе (з ёю пазнаёмімся ніжэй), сродкаў з гэтых крыніц, ды ў час агульнага збяднення насельніцтва, не хапала. Таму большую іх частку складалі сродкі дзяржаўнага бюджэту, як сталыя, так і разавыя, мэтавыя. Іх выдзяляла тое ж ГУУЗ як дзяржаўная ўстанова, да кампетэнцыі якой была аднесена сфера дзейнасці Стражы крэсовай. Але самое ГУУЗ не толькі выдаткоўвала грошы, але і збірала іх у выглядзе падаткаў, якімі абкладвалася насельніцтва падлеглай яму тэрыторыі.

Стража крэсовая разгарнула велізарную прапагандысцкую і асветніцкую работу. Для “крэсаў усходніх” выдавалася звыш двух дзесяткаў перыядычных выданняў, у тым ліку пяць штодзённых газет на шасці мовах, шэраг папулярных выданняў накшталт календароў і г. д. У іх выданні ўдзельнічалі лепшыя тагачасныя інтэлектуальныя сілы Польшчы, уключаючы выдатных гісторыкаў О. Бальцара, Г. Масціцкага, М. Хандэльсмана, Ш. Ашкеназі, О. Халецкага, У. Вакара і інш. Каб павысіць прыцягальнасць Польшчы для беларускага і ўкраінскага насельніцтва, Стража крэсовая патрабавала ад ГУУЗ і, відавочна, атрымлівала сродкі на падтрымку сельскагаспадарчых гурткоў, кааператываў, прафсаюзаў, арганізацый сельскай моладзі, народных дамоў і г. д. Яе палітычнай апорай на месцах у правядзенні гэтай працы сталі так званыя народныя рады, аб’яднаныя ў агульнакраёвы саюз (заўважым, аб дзейнасці іх з беларускай літаратуры нічога невядома).

Аднак паступова ў дзеячаў Стражы крэсовай пачалі ўзнікаць і памнажацца сумненні наконт таго, што гэтыя інтэнсіўныя намаганні дадуць пажаданыя вынікі. Ужо ў верасні 1919 г. з Валыні прыходзілі звесткі аб пагаршэнні адносін мясцовага насельніцва да Польскай дзяржавы. А ў рапарце са Случчыны за люты 1920 г. паведамлялася аб зусім трагічнай сітуацыі: “Усё, што ёсць тут праваслаўна-жыдоўскага, жыве толькі прагай знявагі, помсты і знішчэння ўсяго польскага” (с. 64). Аб прычынах росту гэтых настрояў вядома з апублікаваных

у Беларусі крыніц і літаратуры, таму цяпер дадамо яшчэ толькі адну дэталь да працытаванага фрагмента, якая зацікавіць беларускага даследчыка. Гаворка ідзе пра ксяндза В. Гадлеўскага, які выклікаў абурэнне мясцовага дзеяча Стражы крэсовай як "дэкляраваны вораг польскасці". Ён асмеліўся звярнуцца да польскага войска, што ўступала ў Нясвіж, з прамовай, у якой выклаў беларускую праграму, і з таго часу "застаецца на сваім адказным месцы выхаванца моладзі" (с. 65). Рост антыпольскіх настрояў з боку мясцовага насельніцтва прымусіў дзеячаў Стражы крэсовай сысці са сваёй пазіцыі правядзення плебісцыту на аснове ўсеагульнага галасавання насельніцтва і шукаць яму псеўдадэмакратычную замену.

На заканчэнне нельга не звярнуць увагу на яшчэ адзін фрагмент працы польскай даследчыцы, які напэўна зацікавіць беларускага чытача. Ён сведчыць аб адносінах як Стражы крэсовай, так і дзяржаўных структур да агульнай культурнай спадчыны народаў даўняй Рэчы Паспалітай. У кіруючай варшаўскай радзе Стражы крэсовай з верасня 1919 г. дзейнічаў аддзел помнікаў даўніны, створаны на аснове Таварыства апекі над помнікамі даўніны. Яно існавала ў Мінску з 1916 г. пад назвай Аддзел помнікаў даўніны Цэнтральнага грамадзянскага камітэта. У ім працавалі 12 чалавек, з якіх 5 знаходзіліся пры арміях на польска-савецкім фронце. Супрацоўнікі аддзела за першы год сваёй дзейнасці зрабілі 49 экспедыцый на фронт і вывезлі 630 запакаваных скрыняў з 80 тыс. прадметаў, зрабілі 5006 клішэ і фотаздымкаў (с. 21). Можна меркаваць, што за паўгода да падпісання Рыжскага міру гэтая дзейнасць стала асабліва інтэнсіўнай, бо ўсяго за 1919–1921 гг. Стража крэсовая вывезла з Усходу ажно 2000 скрынь з творамі выяўленчага мастацтва, вырабамі з серабра, бронзы, фарфору, мастацкімі тканінамі. Калі б яна не зрабіла больш нічога, то толькі гэтым заслужыла б сабе выключнае месца ў навейшай гісторыі Польшчы. Польская даследчыца, напэўна, мела права так напісаць: "Былі ўратаваны калекцыі музея Ельскіх у Мінску, музея ў Роўна, калекцыі Патоцкіх, Хадкевічаў, Чапскіх, Чацвярцінскіх, Радзівілаў, Сангушкаў і Тышкевічаў" (с. 22). Нам жа тут варта задумацца…

Па прачытанню кнігі Ё. Героўскай-Калаур напрошваецца такая выснова: не надта істотна, супрацоўніцтва ці суперніцтва вызначалі характар адносін паміж Стражай крэсовай і ГУУЗ. Аўтарка, здаецца, схіляецца да меркавання, што гэта было супрацоўніцтва, якое часамі, а з пачатку 1920 г. усё больш відавочна трансфармавалася ў суперніцтва. Важней іншае: матэрыял кнігі сведчыць, што абедзве арганізацыі вырашалі адну і тую ж задачу, спрабуючы звязаць "крэсы ўсходнія" ў той ці іншай форме з новай Польскай дзяржавай. Іх адносіны з беларускім нацыянальным рухам у гэтай працы не трапілі ў поле зроку даследчыцы, але з прадстаўленага ёю характару дзейнасці абедзвюх арганізацый няўхільна вынікае ацэнка аб іх варожасці да гэтага руху. Польская дзяржава ішла ў пасляваенную Еўропу праз Беларусь, але не з Беларуссю.

Будзем чакаць манаграфіі пані Героўскай-Калаур аб Грамадзянскім упраўленні Усходніх зямель. Такія працы паслужаць апорай у далейшым вы-

вучэнні складанай праблематыкі польска-беларускіх адносін 1918–1921 гг.

***Рыгор Лазько**, кандыдат гістарычных навук (Гомель)*

---

[1] Swiatalski K. Diariusz. 1919–1935. Warszawa, 1992. S. 40.

[2] Listopad – grudzień 1918 r. W świetle listów Władysława Baranowskiego // Dzieje najnowsze. 1992. Nr. 1–2. S. 167–180.

[3] Chojnowski A. Zasady białoruskiej polityki piłsudczyków // Polska – polacy – mniejszości narodowe. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1992. S. 271–272.

[4] Дзённік часткова апублікаваны, гл.: Tajne rokowania polsko-radzieckie w 1919 roku. Warszawa, 1986.

## МАРИНА НАТАЛИЧ. СТРАННИЦА.

### МИНСК: "БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР", 1999. 192 с.

Калісьці, на пачатку XX ст., А. Блок пісаў маладому С. Ясеніну: "За кожны свой крок раней ці пазней прыйдзецца даць адказ, а ісці цяпер цяжка, у літаратуры, бадай што, яшчэ больш цяжка..." Творчасць паэтэсы Марыны Наталіч у гэтым сэнсе — не выключэнне. Нарадзіўшыся на Далёкім Усходзе, трыццаць год жыве яна ў Беларусі, піша па-руску. "Я знаю, как это больно, В чужую землю врастать", — прызнаецца паэтка. Чарговым яе крокам у літаратуры стаў зборнік вершаў "Странница", які выйшаў на мяжы стагоддзяў. Дзякуючы руплівасці выдаўцоў "Беларускага кнігазбору" кніга атрымалася цэласнай, гарманічнай, прыгожай. Выкарыстаная на вокладцы ілюстрацыя з літаграфіі Н. Ганчаровай "Паслушніца" як найлепей падыходзіць да агульнага гучання вершаў, увасабляючы глыбокі падтэкст.

На путях земных не сбиться
Я молюсь
И не прельститься
Жадным зовом бытия.

В выси горние стремиться
Нам с тобой —
Душа-сестрица,
Странница моя.

Гэты верш — ключ да ўсёй кнігі, асноўным лейтматывам у якой гучыць тэма пазнання шматаблічнага свету, наканаванасці лёсу, усведамлення сутнасці разнастайных з'яў і рэчаў, уласнага светаадчування. Вершы новай кнігі надзвычай псіхалагічныя, прасякнутыя глыбокім драматызмам, часам — трагедыйнасцю. Тэматычны дыяпазон іх вызначаецца не столькі аб'ёмнасцю, шырынёй, колькі глыбінёй, што дасягаецца рознымі паэтычнымі сродкамі, у першую чаргу — своеасаблівай аўтарскай манерай стварэння багатай вобразнай структуры вершаў, часта заснаванай на народна-песеннай традыцыі. Вобразы птушкі, дрэва, лесу, дарогі — з той жа фальклорнай плыні,

толькі сацыяльна і духоўна ўскладнёныя, “асучасненыя”. Пошукі шляху да ісціны, сваёй дарогі звязаны з вялікімі душэўнымі затратамі, часта — з пакутамі і болем.

Аўтарскі “голас душы” пранікае ва ўсе закуткі свядомасці і цалкам авалодвае чытачом, закранаючы адвечныя пытанні: жыццё і смерць, каханне і здрада, самота душы ў людскім моры. Увогуле, вобраз душы, адзінокай “в безбрежности мира”, якая “стремится сквозь века, Не смея отдохнуть”, неабароненай перад тварам хлусні, подласці, карыснасці, — адзін з галоўных у зборніку. Яна — у пастаянным руху: “мечется”, “корчится”, “отлетает”, не знаходзячы суцяшэння і гармоніі ў Сусвеце:

> И мечется душа
> В земном непостоянстве,
> Страшась заледенеть
> На звездном сквозняке.

Марина Наталич

СТРАННИЦА



Вершы зборніка адметныя гуманнасцю, міласэрнасцю, прываблівають у першую чаргу павышанай уражлівасцю да жыццёвых перыпетый, абвостранай увагай да ўсяго, што адбываецца вакол з кожным з нас. “Галоўнае, без чаго немагчыма ўявіць сабе паэта, — пісаў У. Караткевіч, — гэта добрае, шырокае сэрца, адкрытае ўсім радасцям і гаротам, усяму дабру і злу свету. Гэтае сэрца не можа быць абыякавае. Яно смяецца з людзьмі, шкадуе і любіць іх, і кожны боль кожнага чалавека асядае на яго, як на растрывожаную, адкрытую рану”. Менавіта такое, як дотык да аголенага нерва, успрыняцце навакольнага свету характарызуе светабачанне аўтара. “И нет мне покоя На горе людское”, — заканчвае адзін з вершаў паэтка, чыё сэрца, шмат перажыўшы, у прамым сэнсе фізічна адчувае боль, пакуты, смерць блізкіх. Уражвае дзіўная блізкасць паэтычных інтанацый М. Наталіч і “астральнай” паэзіі М. Цвятаевай. Імкненне апошняй “все понять и за всех пережить”, жаданне ў хвіліны безвыходнасці вырвацца, адляцець: “Понимаешь, что из тела — вон — хочу?” — надзвычай сугучныя светаўспрыманню М. Наталіч.

Кніга, кампазіцыйна грунтоўна прадуманая, успрымаецца як мастацкая галерэя: хвалюючыя дакладныя замалёўкі, сімвалічныя гравюры, маляўнічыя фрэскі мінулага і сучаснага, выразныя партрэты, цудоўныя пейзажы, цэлыя карціны, дзе гук, колер, лёгкасць і імгненнасць думкі дасягаюць моцнага эфекту эмацыянальнага ўздзеяння. Паэтычнай манеры аўтара ўласцівы сінкрэтызм, кантраснасць. Мяккія, узнёсла-лёгкія, лірычныя інтанацыі, больш уласцівыя першай частцы зборніка “Ушедшая осень”, перамяжаюцца з абвостранымі, жорстка-балючымі. Але пераважаюць элегічныя, сузі-

ральна-філасофскія вершы, дзе кожны з іх — невялікая гісторыя, штрых да агульнага ўспрыняцця Сусвету.

У імпрэсіі “Мая душа” рускі класік І. Аненскі пісаў: “Вся вина этой души заключалась только в том, что кто-то и где-то осудил ее жить чужими жизнями, жить всяким дрязгом и скарбом, которым воровски напихивала его жизнь, жить и даже не замечать при этом, что ее в то же самое время изнашивает собственная, уже ни с кем не делимая мука”. Калі чытаеш “Странницу”, ствараецца адчуванне, што радок нібы “задыхаецца” ад гэтай невыноснасці, пакуты, напружанасці пачуццяў. Вершы М. Наталіч — не крык душы, гэта, хутчэй, спроба “извыть” (набокаўскі выраз) сваю душу, зведаць чужую. Як казалі старажытныя рымляне, “празмерна нацягнутая струна рвецца”, так і некаторыя вершы паэткі, дасягаючы высокага напружання гучання, здаецца, сарвуцца на сапраўдны крык. Але адбываецца процілеглае: радкі нібы супакойваюць, сцвярджаючы пераможнае існаванне адвечных ісцін жыцця: кахання, шчырасці, дабра, “дэфіцыт” якіх не аднойчы зведаў кожны з нас:

Мы будем щедрыми на ласку и тепло —
Их в мире — мало.

Біяграфічныя вершы М. Наталіч, у цэнтры якіх вобраз жанчыны, узрушваюць сваёй адкрытасцю, эмацыянальнасцю. Прыём эпісталярнай інтанацыі, лірычнага дыялогу і маналогу падкупляе шчырасцю, даверальнасцю, дапамагае чытачу “ўключыцца” ў размову, прыцягваючы да споведзі душы. Радкі — нібы рэха ўласных перажыванняў, пакут і праблем. У гэтым, думаю, сакрэт паэзіі М. Наталіч — з ёй мала проста пазнаёміцца, яе хочацца чытаць і перачытваць.

Жыццёвае крэда многіх паэтаў “Я — где боль, везде” (У. Маякоўскі), становіцца творчым прынцыпам і для М. Наталіч. На сэрцы паэткі — не толькі асабістыя раны, але і сляды эпохі (“Страну знобит от ран сквозных”...), самыя “чорныя” крокі XX ст.: ГУЛАГ, войны, Чарнобыль... Яе рэакцыя на сучасныя катаклізмы нясцерпная, вострая, прарочая. Па эмацыянальнаму ўздзеянню гэтыя вершы гучаць часам больш пераканаўча за многія публіцыстычныя артыкулы. Паэзія М. Наталіч вельмі абаяльная, яна здзіўляе вытанчанасцю, элегантнасцю, далікатнасцю. Паэтка валодае тонкім слыхам, выключнай уважлівасцю, адметным густам. Яе вершы, мелодыкай сваёй набліжаныя да народнай песні, гучаць як музыка, яны здзіўляюць лексічным і стылістычным багаццем, жанравай разнастайнасцю. Паэтычнае майстэрства М. Наталіч надзвычай высокае, яна выдатна валодае паэтычнымі тропамі, ашчадна ўжываючы дасканала падабраныя словы. Неабавязковых дробязей, дэталяў тут амаль няма, — яе паэтычная плынь чыстая, празрыстая. Патрабавальнасць да слова дапамаглі паэтцы максімальна наблізіцца да “пяшчотнай, асабліва інтэлігентнай душы” Максіма Багдановіча. Дакладныя, усхваляваныя пераклады гэтай “самотнай зоркі” М. Наталіч, якія склалі трэцюю частку зборніка “Мудрого слова мед золотистый...” — сур’ёзны ўклад у літаратурны працэс Беларусі, сапраўдны ўзор паэтычнага пранікнення і аўтарскай смеласці. Лічу, што літаратурныя колы Бела-

русі (маю на ўвазе рускамоўныя перыядычныя выданні), якія прапагандуюць беларускую літаратуру, не павінны абмінуць гэтую з’яву, бо таленавіты перакладчык “здзяйсняе сувязь культур”, а гэта надзвычай важная справа для сённяшняга дня.

Пасля прачытання кнігі становіцца радасна на душы, нават лёгка, як быццам ты пачуў доўгачаканыя адказы. “Вялікае мастацтва заўсёды радаснае, — пісаў М. Валошын. — Гэта адзіны, быць можа, крытэрый, па якому можна адрозніць часовае, малое мастацтва, ад мастацтва вялікага”. Адляцеўшы з рук аўтара, кніга ўжо не належыць яму, у яе — свой лёс, свая дарога. Хочацца, каб не згубілася яна на літаратурным раздарожжы, стала прыкметнай з’явай у літаратуры.

***Ірына Тамільчык**, навуковы супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## ПЕРШЫЯ ВОДГУКІ

*У час III Міжнароднага кангрэса беларусістаў у рэдакцыю “Кантактаў і дыялогаў” паступіла нямала новых цікавых выданняў, на якія хочацца звярнуць увагу нашых чытачоў.*




Паколькі на эмблеме Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў знаходзіцца выява святой Ефрасінні Полацкай, чый дзень адзначаецца якраз у чэрвені, лагічна будзе наш агляд пачаць з кніжачкі *“Служба Сьвятой Маці нашай Еўфрасіньні Полацкай, асьветніцы Беларусі”*, якая сёлета з’явілася ў выдавецтве “Божым шляхам” у Лондане. Укладальнік яе — айцец Аляксандр Надсан, які прыняў актыўны ўдзел у кангрэсе.

У выданні змешчаны тэксты вячэрняй службы, ютрані і літургіі, а таксама малітва Міхаліны, надрукаваная ў свой час у мінскім часопісе “Унія”. У ліцці з вячэрняй службы гучаць наступныя словы: “Полацак цешыцца, а з ім уся Беларусь, сьвяткуючы памяць сваёй заступніцы і асьветніцы, слаўнай маці нашае Еўфрасіньні. Яна просіць Хрыста Бога, якога палюбіла больш за ўсё, захаваць свабодным наш народ, умацаваць яго ў праўдзівай веры і згодзе, даць супакой усяму сьвету і душам нашым адпушчэньне грахоў і веліч зьмілаваньня”. У словах гэтых — нашы надзеі і пажаданні.

Як вядома, Ефрасіння Полацкая першай або адной з першых здзейсніла




паломніцтва з беларускіх зямель да святых месцаў у Палесціне. У яе было шмат паслядоўнікаў. Іх “хаджэнні” грунтоўна разглядаюцца ў кніжцы маладога беларускага літаратуразнаўца Сяргея Гараніна *“Шляхамі даўніх вандраванняў: Гістарычна-тэарэтычны нарыс развіцця беларускай паломніцкай літаратуры XII–XVI стст.”*, якая летась выйшла ў мінскай “Тэхналогіі”.

У кнізе С. Гараніна, якая, дарэчы, бясплатна была ўручана прыезджым удзельнікам кангрэса, — тры раздзелы. У першым разглядаецца паломніцкая літаратура ў кантэксце сярэдневяковага славянскага і заходнееўрапейскага пісьменства. Другі прысвечаны гісторыі жанру хаджэнняў у Беларусі. Тут аналізуюцца творы Ігнацiя Смаляніна, манаха Варсанофія, Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі і інш. У трэцім раздзеле кнігі даследуюцца элементы гістарычнай паэтыкі хаджэнняў. Тры дадаткі — гэта тэксты трох хаджэнняў: архімандрыта Графенія, Ігнацыя Смаляніна і манаха Варсанофія.

Зборнік *“Хунгара-Балтаславіка 2000”*, выдадзены сёлета ў Будапешце, перадаў у рэдакцыю нашага бюлетэня кіраўнік асацыяцыі венгерскіх беларусістаў Андраш Золтан. Сюды ўвайшлі тэзісы дакладаў дзвюх міжнародных навуковых канферэнцый, якія адбыліся ў Будапешце паралельна 5–7 красавіка бягучага года. Яны былі прысвечаны граматычным сістэмам і тыпалогіі моваў Балтыйскага арэала і мовам у Вялікім Княстве Літоўскім і краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Рэдагавалі кнігу А. Лацхазі, Э. Смолінка, А. Золтан.




У зборніку — 46 публікацый, прама або ўскосна звязаных з беларусістыкай (у наступных нумарах бюлетэня мы пастараемся пералічыць іх у бібліяграфіі). Многія з іх пададзены на беларускай мове (Юля і Мікалай Аляхновічы, Генадзь Цыхун, Людміла Гадуйка, Лена Леванцэвіч, Вікторыя Ляшук, Валянціна Мароз, Мікола Новік, Генадзь Сагановіч, Іван Сацута, Ларыса Станкевіч, Сяргей Важнік, Сяргей Запрудскі і інш.). Ёсць працы аўстрыйскіх, венгерскіх,

літоўскіх, польскіх, расійскіх, украінскіх беларусістаў. Нечакана аб'ектам асаблівай увагі стала мова нашай Браслаўшчыны.

Прыемна падкрэсліць, што сёння каштоўныя ініцыятывы і цікавыя выданні нараджаюцца не толькі ў сталіцах, але і ў малавядомай правінцыі. Вярнуўся з Беластока ў родныя Крынкі вядомы беларускі празаік і грамадскі дзеяч Сакрат Яновіч, заснаваў там Вілу Сакратэс, — і стаў выходзіць пад яго рэдакцыяй, а ў афармленні Лёніка Тарасэвіча штогоднік паэзіі, прозы, крытыкі і перакладаў *"Год Беларускі"* ў арыгінальным графічным і паліграфічным выкананні.




Як піша ў "Слове рэдактара" сам Сакрат Яновіч, чытачу прадстаўляецца першы выпуск "пэрыёдыка", прысвечанага беларускай літаратуры. Але "не столькі для беларусаў, колькі менавіта для тых, хто цікавіцца ёю. Таму не па-беларуску, а на мовах Эўропы". І далей: "Выдавецкая канцэпцыя адназначная: пра беларускае не па-беларуску, а па-беларуску небеларускае. Гэта дзеля прыжывання беларускага ў шырокім сьвеце і таго ж сьвету прыжывання ў беларускім". На нямецкай, французскай, англійскай мовах выступаюць беларусісты Норберт Рандаў, Вірджынія Шыманец, Арнольд Макмілін. Творы ж еўрапейскай літаратуры падаюцца ў беларускім перакладзе.

А па другі бок польска-беларускай граніцы, у Мастах, нарадзілася іншая, не менш цікавая ініцыятыва — першы выпуск *"Маленькага сшытка"* Лявона Вашка. Калі меркаваць па аўтарскіх падзяках, нараджэнне гэтай сціплай кніжкі ў нашых крызісных умовах увогуле выглядае фантастычна. Выдадзена яна ў "Мастох – Полацаку – Менску". Пра выхад яе "чынна дбаў" асветнік і этнограф з Гудзевіч Алесь Белакоз. Набор рабілі праграмісты з "Мастоўдрэва", паперу дала фермерская гаспадарка Генрыха Мысліўца, а друкавала зборнік гродзенская "Ратуша" на чале з Алесем Мілянкевічам.

Кніга пачынаецца з "Уступу" Алеся Аркуша. Далей ідуць "Карабель сноў", "Лістасей" (некаторыя лісты адрасуюцца ў Чэхію і ЗША — Сержуку Сокалаву-Воюшу, Лявону Юрэвічу і нават Білу Клінтану, ёсць падзяка апошняга за надасланую кніжку з аўтографам), хроніка "Дзеячас" і "Імёнапаказнік". Мы разумеем, што чытача тут часам штучна эпаціруюць. Але ж з якімі добрымі намерамі: "Калі кожны прынясе цагліну і пакладзе яе ў мур, будзе будынак, калі кожны зойдзе ў будынак і скажа жывое беларускае сло-




ва — паўстане Храм Духу".

Як бачна з рэкламы на вокладцы, у наступным выпуску "Маленькага сшытка" чытача чакаюць паэзія, драматургія, літаратурная крытыка, рэцэнзіі на айчынныя і зарубежныя кнігі.

"Маленькі сшытак" Лявона Вашка ўсё ж можна неяк здабыць: ён выдадзены тыражом у 299 асобнікаў. А вось кніга другога апантанага энтузіяста, Леаніда Маракова, *"Вынішчэнне: Рэпрэсаваныя беларускія літаратары"* — ужо сёння, у год выдання, з'яўляецца вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю. Тыраж яе — усяго 50 экземпляраў. І то аддрукаваны яны (затое на якой паперы!) на пазычаныя грошы. Таму і каштуе яна дарага — прыкладна 40 у.а. Праўда, наша рэдакцыя атрымала адзін экземпляр бясплатна — за навуковыя кансультацыі, аказаныя аўтару рэдактарам.

Рэпрэсаванымі пісьменнікамі Леанід Маракоў, прадпрымальнік і вучоны (фізік), заняўся некалькі гадоў таму, зацікавіўшыся лёсам і спадчынай свайго дзядзькі, пісьменніка Валерыя Маракова. Адкапана, здаецца, усё, што звязана з гэтай трагічнай асобай. Потым пошукі распаўсюдзіліся на ўсю эпоху сталінскіх рэпрэсій, урэшце — нават на XIX ст. У выніку нарадзіўся першы ў свеце даведнік такога тыпу. Сюды ўвайшлі спісы рэпрэсаваных літаратараў Беларусі па алфавітнаму пераліку прозвішчаў, па датах нараджэння, па датах арыштаў, па датах смерці.

Дай, Божа, надзею на тое, што ў гэтага спісу ніколі не будзе аніякага працягу!




Наступная кніжка, пра якую тут трэба сказаць, — зборнік *"Сляза пякучая Айчыны: Творчы партрэт Яна Чыквіна"*, выдадзены сёлета ў Беластоку. Сюды ўключаны працы Уладзіміра Калесніка, Уладзіміра Конана, Масея Сяднёва (ЗША), Алы Сямёнавай, Вольгі Шынкарэнка, Ніны Мацяш, Галіны Тврановіч, Людмілы Зарэмба, Алеся Разанава, Анатоля Раманчука. Завяршаецца зборнік гутаркай з Я. Чыквіным беларускай і польскай пісьменніцы Тэрэсы Занеўскай "Немагчыма ўступіць у адну і тую ж раку двойчы".

Выхад зборніка тым больш радуе чытачоў, што нядаўна герою кнігі, паэту і навукоўцу, сённяшняму інспіратару беластоцкай “Белавежы” Яну Чыквіну споўнілася 60. Праўда, у пазамінулым нумары нашага бюлетэня памылкова гэтая лічба павялічана да 70, за што мы просім у праф. Чыквіна прабачэння. Відаць (калі глянуць з другога боку), хтосьці не паверыў, што столькі можна зрабіць за шэсцьдзесят…




У нумары ж нашага бюлетэня, які сёння прапануем чытачу, мы змяшчаем таксама даклад юбіляра на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў, прачытаны ім на секцыі “Хрысціянства і Беларусь”.

Урэшце трэба сказаць некалькі добрых слоў пра літоўскую кнігу *“Культурнае жыццё Вільнюса: 1939–1945”*, выдадзеную летась Інстытутам літоўскай літаратуры і фальклору. Уклала зборнік беларусістка Альма Лапінскене, вучоны сакратар гэтага інстытута. У зборнік увайшло некалькі артыкулаў на беларускай мове: “Мае ўспаміны пра Віленскую беларускую гімназію: 1939–1945” Галіны Войцік, “Францішак Аляхновіч — рэдактар газеты “Беларускі голас” Ніны Пяткевіч. Генрых Пяткевіч па-руску піша пра тагачасны беларускі друк у Вільнюсе, Альгіс Каледа па-літоўску — пра раманы польскага пісьменніка Юзафа Мацкевіча, прысвечаныя звычайна беларускай праблематыцы.

Варта прыгадаць, што папярэдні зборнік з гэтай серыі, “Культурнае жыццё Вільнюса: 1900–1940”, укладзены той жа А. Лапінскене і выдадзены годам раней, уключаў у сябе беларускія артыкулы Лявона Луцкевіча, Валянціны Коўтун і Таццяны Поклад, прысвечаныя беларускай культуры Вільні на пачатку XX ст., узаемаадносінам Цёткі са Сцяпонасам Кайрысам і даваеннаму перыяду дзейнасці Віленскай беларускай гімназіі.




***А. М.***

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банкоўскі*** *(Швейцарыя),* ***Алеся Белавусава, Герман Бідэр*** *(Аўстрыя),* ***Венета Георгіева*** *(Балгарыя),* ***Валянціна Грышкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Альма Лапінскене*** *(Літва),* ***Адам Мальдзіс, Таццяна Махнач, Таццяна Пятровіч, Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія),* ***Сакрат Яновіч*** *(Польшча).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям, якія паступаюць у ГА "МАБ" і Цэнтр імя Ф. Скарыны. З іншымі публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў перыёдыцы, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі таго ж Цэнтра.

Па тэхнічных прычынах беларускія публікацыі ў нумары ўлічаны толькі ў нязначнай частцы ("Агульныя пытанні").

## АЎСТРЫЯ

**Bieder Hermann.** Sprachenpolitik und Sprachensituation in den Nachfolgestaaten der Sowjetunion [у тым ліку ў Беларусі] // Mitteilungen des Österreichischen Staatsarchivs. Sonderband 5. Wien, 2000. S. 123–139.

## БАЛГАРЫЯ

**Алексова Е.** За олтара и жертвата, или За стиховете на Г. Адамович, Н. Гилевич и Г. Христов // Български писател. 2000. 21–31 май.

## БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Башков Александр.** Западноевропейские христианские традиции // Дыялог. 2000. № 6. С. 14.

**Бенчева К. Б.** Проблема этноконфессиональных отношений на Балканах: (Конец 80-х- середина 90-х гг. XX в.): Автореф. дисс. ... канд. ист. наук. Минск, 1999.

**Восточнославянский** фольклор: Поиски новых подходов. Молодечно, 2000.

**Достанко Е. А.** Общеевропейский процесс: Учеб.-метод. пособие. Минск, 1999.

**Еўтухоў I. А.** Успрыняцце прасторы і часу ў познеантычным менталітэце. Мн., 1999.

**З любоўю** ў сэрцы: Сб. оригинальных и переводных произведений преподавателей и студентов, посвященный 30-летию переводческого факультета. Минск, 1999.

**Зенченко В. А.** Политические доктрины современности: Учеб. пособие в 2 ч. Минск, 1999. Ч. 1.

**Міжнародныя** Купалаўскія чытанні: Матэрыялы навук. канф., 25–27 лістапада 1997 г. Гродна, Беларусь. Гродна, 1999.

**Настольная** книга преподавателя иностранного языка: Справочное пособие. Минск, 1999.

**Обучение** взрослых иностранным языкам — традиции и перспективы: Материалы I Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 20–21 мая 1999 г. Минск, 1999.

**Павлова Л. В., Зыбайло А. И.** Международное гуманитарное право: Учеб. пособие: [У 2 ч.]. Минск, 1999. Ч. 1.

**Решетников С. В.** Политология в Республике Беларусь: теоретико-методологические и прикладные аспекты. Минск, 1999.

**Серкутьев Г. В., Бурко И. Г.** Технология преподавания "Всемирной истории" по методу "погружения": Экспериментальный методический подход по планированию и изучению "Всемирной истории": Учеб.-метод. пособие. Минск, 1999.

**Смирнов В. С., Семилетников Н. А.** Переговорный процесс: Учеб. пособие. Минск, 1999.

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

**Górska Teresa.** Pierwsza beatyfikacja w trzecim tysiącleciu: [Пра законніц, расстраляных гітлераўцамі ў 1943 г. у Навагрудку] // Tydzień Polski. 2000. 22 kwiet.

**Nowoszyce** Dwór [каля Пінска] // Tydzień Polski. 2000. 8 kwiet.

**Villers Melissa de.** A chip off the old bloc: [Уражанні пра Мінск, яго архітэктуру, тэатры] // The Sunday Telegraph. 2000. May. 28.

**Wiśniewska Maria.** Wspólny marsz: [Рэц. на кн.: Stankiewicz-Januszczak Joanna. Marsz śmierci: Ewakuacja więźniów z Mińska do Czerwieni 24–27 czerwca 1941 r. Warszawa, 1999] // Dziennik Polski. 2000.

29 maja.

**Witek Przemysław Jerzy.** Symbol honoru: [Пра жыхара Грушаўкі на Палессі Тадэвуша Рэйтана] // Tydzień Polski. 2000. 29 kwiet.

## ГЕРМАНІЯ

**Bieder Hermann.** Konfession, Ethnic und Sprache in Weißrußland im 20. Jahrhundert // Zeitschruft für Slavistik. 2000. H. 2. S. 200–214.

**Holtrup Petra.** Der Bug — eine natürliche Grenze zwischen ungleichen Partnern; Nemunas und Daugava — auf Dauer Abwasserkanäle in die Ostsee? // Holtrup Petra. Der Schutz grenzüberschreitender Flüsse in Europa — zur Effektivität internationaler Umweltregime. Forschungszentrum Jükich, [o. d.].

## ЗША

**Весткі** й Паведамленьні нью ёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. 2000. 30 траўня, 14 чэрв., 2 ліп.

**Гілевіч Ніл.** І асівелі, і злыселі, а так і не зразумелі… // Бел. дайджэст. 2000. № 5. С. 3.

**Грыбоўскі Юрка.** Беларусы на франтах Другой сусветнай вайны // Бел. дайджэст. 2000. № 5. С. 7.

**Кампактны** дыск з джазавай музыкай Зьміцера Яўтуховіча: Інтэрвью Янкі Запрудніка з кампазітарам Зьм. Яўтуховічам // Беларус. 2000. № 468. Сак. – крас. С. 7.

**Сурвілла Івонка.** Успаміны зь беларускага жыцьця ў Парыжы (1948–1952) // Беларус. 2000. № 469. Трав. С. 5–6, 8.

**Сурвілла Янка.** Бэрлін: [Успаміны] // Беларус. 2000. № 468. Сак. – крас. С. 6, 8.

**Швэдзюк М.** Аб беларусах ва ўспамінах ген. Андэрса // Беларус. 2000. № 468. Сак. – крас. С. 7.

**Яновіч Сакрат** (Беласточчына). Адкуль чалавек у нас? // Бел. Дайджэст. 2000. № 5. С. 6.

## КАНАДА

**Каардынацыйны** камітэт беларусаў Канады: Камунікат. 2000. № 5. Чэрв.

## ЛІТВА

**Бектинеев Ш. И.** Полоцко-Витебская денежно-весовая система XIII–XIV веков: [Па матэрыялах археалагічных даследаванняў] // Lietuvos Archeologija 18. Vilnius, 1999. P. 153–163.

**Война Галіна.** Мае ўспаміны пра Віленскую беларускую гімназію 1939–1945 // Vilniaus kultūrinis gyvenimas (1939–1945). Vilnius, 1999. P. 55–61.

**Петкевич Генрих.** Белорусская печать в Вильнюсе (1939–1944) // Vilniaus kultūrinis gyvenimas (1939–1945). Vilnius, 1999. P. 131–135.

**Пяткевіч Ніна.** Францішак Аляхновіч — рэдактар газеты “Беларускі голас” // Vilniaus kultūrinis gyvenimas (1939–1945). Vilnius, 1999. P. 136–141.

**Anužytė L.** Lietuvos Metrika — šaltinis ikistatutinio laikotarpio testamento paveldejimo reguliavimui tirti // Lituanistica. 1999. Nr 3. P. 3–15.

**Ragauskienė R.** LDK kanclerio Mikalojaus Radvilos Rudojo (apie 1515–1584 m.) klientai — karališkieji sekretoriai // Lituanistica. 1999. Nr 3. P. 16–45.

**Rotundus Augustinas**. Sveikinimas sluckiečiams: [Прывітанне Мацею Стрыйкоўскаму, які тады пісаў гісторыю Літвы ў слуцкім палацы Алелькавічаў] / Vertė Eugenija Ulčinaitė // Šešioliktojo amžiaus raštija. Vilnius, 2000. Kn. 5. P. 306–307.

## ПОЛЬШЧА

**Глагоўска Галена, Жамойцін Янка.** Уводзіны // Катковіч Анеля, Катковіч-Клентак Вэраніка. Успаміны. Беласток, 1999. С. 7–20.

**Кавалёў С.** Пошукі бацькаўшчыны ў паэзіі Беларусі XVI ст. // Wielkie tematy kultury w literaturach słowiańskich. Wrocław, 1999. Zesz. 2. S. 29–36.

**Катковіч Анеля, Катковіч-Клентак Вэраніка.** Успаміны. Беласток, 1999.

**Харужы Вячаслаў.** Міхась Забэйда-Суміцкі // Czasopis. 2000. Nr 6. S. 29.

**Barszczewski A.** “Szypszyna” w kontekście białoruskiego piśmiennictwa emigracyjnego: [Аб літаратурна-мастацкім часопісе “Шыпшына”, што выдаваўся ў 1946–1950 гг.] // Literatura Słowian Wschodnich: Tendencje rozwojowe przewartościowania. Zielona Góra, 1999. S. 29–36.

**Bernatowicz Tadeusz.** Monumenta valiis Radzivillorum: Wyposażenie zamku Nieświeskiego w świetle żródeł archiwalnych. Cz. I: XVI–XVIII wieku.Poznań, 1998.

**Chołodowski M.** Jaki język, taki naród: Mieszkający na Białostocczyżnie Białorusini utworzyli swoisty skansen. Bronią tożsamości, kultury i języka białoruskiego. A na Białorusi postępuje rusyfikacja // Gaz. Wyborcza. 1999. 16 sierp.

**Choruży Wiesław.** [Рэц. на кн.: Swed Wiktor. Lata wiatr skrzydlaty. Białystok, 2000] // Czasopis. 2000. Nr 6. S. 36.

**Czykwin Elżbieta.** Białoruska mniejszość narodowa jako grupa stygmatyzowana. Białystok, 2000.

**Danilewicz-Zielińska Maria.** Szkice o literaturze emigracyjnej półwiecza 1939–1989: [Ёсць матэры-

ялы пра ўраджэнцаў Беларусі]. Wrocław, 1999.

**Drozd A., Dziekan M. M., Majda T.** Meczety i cmentarze tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 1999.

**Fic Tamara.** Notatki pomieszane: [Пра бел. свядомасць на Беласточчыне] // Czasopis. 2000. Nr 6. S. 31–33.

**Kozłowska-Głogowska Helena.** Neznany los Józefa Farbotki: [Аўтар устанавіла, што пасля 1945 г. бел. паэт жыў у Лодзі, дзе і памёр 8.06.1956 г.] // Czasopis. 2000. Nr 6. S. 21–24.

**Leszczyńska I.** Zjednoczeni w tańcu: [Аб культурным жыцці палякаў у Гродне] // Rzeczpospolita. 1999. 23 czerw.

**Mikulski Waldemar, Zawadzki Jarosław.** Opisy zamków białoruskich z inwentarzy dóbr przechowywanych w Archiwum Radziwiłłów w Archiwum Głównym Akt Dawnych. Warszawa, 1999.

**Mironowicz Eugeniusz.** Polityka narodowościowa PRL. Białystok, 2000.

**Panasiuk Nadzieja.** Kilka uwag na temat przekazu w języku polskim imion i nazwisk białoruskich dla tłumaczy języka rosyjskiego // Lingua legis [2000]. Nr 8. S. 40–45.

**Panasiuk N.** Satyra polityczna w białoruskiej literaturze współczesnej // Literatura Słowian Wschodnich: Tendencje rozwojowe, przewartościowania. Zielona Góra, 1999. S. 219–226.

**Sadowski A.** Tożsamość mniejszości a kultura większościowa na przykładzie badań wśród białoruskiej mniejszości w Polsce // Pogranicze z Niemcami a inne pogranicza Polski. Wrocław, 1999. S. 211–226.

**Tomaszewski Jerzy.** [Рэц. на кн.: Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.). Мн., 1998] // Biuletyn Źydowskiego Instytutu Historycznego. 2000. Nr 1. S. 102–103.

**Witryna**: [Рэц. на кн.: Keczyńscy Ewa i Andrzej. Drewniane cerkwie Bałostocczyzny = Драўляныя цэрквы Беласточчыны = Wooden Orthodox churches of Białystok Region. Białystok; Białowieża, (1998) 1999] // Czasopis. 2000. Nr 6. S. 35.

**Wrede M.** Przywiley około uniei za obiazdem Litwinów: Rękopiśmienny kodeks ze zbiorów Biblioteki Ordynacji Zamojskiej // Biul. Inform. Bibl. Nar. 1999. Nr 2. S. 20–25.

## РАСІЙСКАЯ ФЕДЭРАЦЫЯ

[**Алексіевіч С. А.**] Трагические вопросы без ответов: “Мы живем в несчастное время, которое снова родит несчастное поколение”: [Інт.] / Зап. С. Плетнева // Независимая газ. 1999. 8 июня.

**Ангелевич А.** Кто устоял в сей жизни трудной ... Василю Быкову — 75 лет // Известия. 1999. 19 июня.

**Бовда Ю. И.** Берусь за любые заказы: [Маналог ганчара з Бабруйска] // Нар. творчество. 1999. № 4. С. 46–47.

[**Быкаў Васіль**] Восхождение к себе: [Інт.] / Зап. С. Шапрана // Общ. газ. 1999. 17–23 июня.

**Василькова А.** Особенности белорусской рыбалки: [Пра новы анімацыйны фільм бел. рэжысёра І. Волчака “Пастараль”] // Искусство кино. 1999. № 8. С. 44–45.

**Ильинский Г. А.** Народы-братья: [Культуралагічны нарыс пра паходжанне укр. і бел. народаў] // Моск. журнал. 1999. № 7. С. 3–10.

**Каравай**: [Пра абрад] // Нар. творчество. 1999. № 4. С. 18.

**Ковалев В.** Белоруссия: [Пра сацыяльна-эканамічнае становішча рэспублікі] // Красная звезда. 1999. 20 февр.

**Лазарев Л.** Когда правда глаза колет: В. Быкову — 75 // Лит. газ. 1999. 16–24 июля.

**Лунина Л.** Черно-Белая Русь: [Сацыяльны нарыс пра Беларусь] // Профиль. 1999. № 27. С. 20–21.

**Оганесян А.** В надежде найти Надежду: Автограф Марка Шагала // Лит. газ. 1999. 11–17 авг.

**Панасюк В. В., Седедевский В. И.** Международное право в практике Конституционного Суда Республики Беларусь // Юрист. 1999. № 1 С. 42–46.

**Пехтерев И.** Криница любви: [Пра адраджэнне народных святаў і абрадаў ў Магілёўскай вобл.] // Нар. творчество. 1999. № 4. С. 15.

**Пономарев А.** Пресса [у Беларусі] // Беларусь глазами российских журналистов. М., 1999. С. 93–95.

**Разуменко Тамара, Легенченко Александр.** Умирая, она ни о чем не жалела: [Пра Варвару Кашавараву-Рудневу, якая нарадзілася на Магілёўшчыне, выхоўвалася ў Чавусах, першай сярод жанчын абараніла ў Расіі дысертацыю на ступень доктара медыцыны] // Труд в Беларуси. 1999. 16 дек.

**Рыбакова С.** Белое с красным: Народный костюм Поднепровья // Нар. творчество. 1999. № 4. С. 38–40.

[**Савіцкі М. А.**] Михаил Савицкий: “Призыв к согласию с преступным режимом — изощренный обман”: [Гутарка з нар. мастаком і лаўрэатам Дзяржаўных прэмій СССР і БССР] / Зап. О. Степаненко // Правда. 1999. 14–17 мая.

**Санникова А. В.** Конференция МАПРЯЛ в Минске // Рус. яз. в шк. 1999. № 5. С. 104–105.

**Сойко О.** Беларусь: Возвращение в социализм: [Аб адносінах улады да незалежнай прэсы ў Беларусі] // Беларусь глазами российских журналистов. М., 1999. С. 55–64.

**Состояние** еврейской культуры в Беларуси // Вести потребкооп. 1999. 3 марта.

**Тен В.** Белорусские мессии // Беларусь глазами российских журналистов. М., 1999. С. 112–122.

**Тихонов Л. Н., Гримоть А. А.** Содружество — основа прогресса педагогического образования // Педагогика. 1999. № 7. С. 68–72.

**Трофимов А. И.** О белорусских генеалогических связях друкаря Ивана Федорова // Гербовѣдъ. 1999. № 2. С. 140–144.

**Хмельницкая Л.** [Віцебск]. Музей Шагала приглашает // Евр. камертон. 1999. Апр.

[**Церашонак Г. П.**] С мечтой о Белой Руси: [Інт.] // Нар. творчество. 1999. № 4. С. 12–13.

**Черепуров В. М.** Сравнительный анализ данных социологических опросов населения Белоруссии и России об отношении к союзу двух стран. М., 1999.

**Шахотько Л. П.** Миграционные процессы в Республике Беларусь // Социологические исслед. 1999. № 3. С. 87–97.

**Шляхам** Скарыны: Выданне беларускамоўнае нацыянальнае меншасці места Масквы. 2000. № 1 (17)

[**Ярмоленка А. І.**] "А я лягу-прилягу...". С этим у "Сябров" до сих пор туго. Своё 25-летие знаменитый ансамбль встречает с головой в работе: [Інт.] / Зап. Т. Владимирова // Трибуна. 1999. 1 июня.

## ФРАНЦЫЯ

**Lalkoù Ihar** [Мінск]. Aperçu de l'histoire politique du Grand-Duché de Lituanie: [У нарысе разглядаецца таксама гісторыя беларускіх зямель] / Préface de Bruno Drweski. Paris, 2000.

## У РЭДАКЦЫЮ БЮЛЕТЭНЯ ПАСТУПІЛІ:

**Аркуш Алесь.** Выпрабаваньне развоем: Артыкулы, эсэ, гутаркі, інтэрв'ю. Полацак, 2000.

**Бюлетэнь** Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі. 2000. № 3. Чэрв.

**Вольная** моладзь — куды падацца? Магілёў, 1999.

**Даследчык** гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі: (Зборнік навуковых артыкулаў і дакументаў). Гомель; Рэчыца, 2000.

**Дело:** Журнал международного сотрудничества из Беларуси. 2000. № 4, 5, 6.

**Кандыбовіч Сымон.** Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**Краязнаўца** Паазер'я. 2000. № 6.

**Крэнь Платон.** Бывай, Ярашоўка: Успаміны, нарысы, вершы / Уклад. І. Крэнь. Мн., 1999.

**Матэрыялы** Першых Кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верасня 1998 г.). Мн., 2000.

**Палімпсест** (Полацк). 2000. № 9. Чэрв.

**Поляки** и русские в глазах друг друга. М., 2000.

**Санюк Дз. К.** Эстэтыка творчасці Янкі Купалы. Мн., 2000.

**Тоўсцік Аркадзь.** Вяртанне да вытокаў сваіх. Мн., 2000.

**"Усім** вядомы Вам Мікола Каспяровіч…": Каталог выставы. Мн., 2000.

**Яніцкі Міхаіл Іванавіч.** Праблема станаўлення і эвалюцыі сатырычных жанраў у новай беларускай літаратуры / Аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук. Брэст, 2000.

**Baranowski Jerzy, Libicki Marcin, Rottermund Andrzej, Starnawska Maria.** Zakon Maltański w Polsce. Warszawa, 2000.

**Garncarek Piotr** [першы сакратар пасольства Польшчы ў Беларусі]. Świat języka polskiego oczami cudzoziemców. Warszawa, 1997.

**Internationale** Politik. 2000. Nr 6.

**Jews** in Eastern Europe (Israel). 1999. Winter.

**Kultura** (Paryż). 2000. Nr 5, 6.

**Kultūros** Barai (Vilnius). 1999. Nr 3, 4.

**Letter** du Centre d'études Slaves (Paris). 2000. N. 2.

**Nowe** Kontrasty. 2000. Nr 6, 7.

**Pro Europa:** Ня толькі літаратуразнаўчы бюлетэнь. 2000. № 7. Студз. – крас.; № 8. Трав. – жн.

**Przeszłość** odległa i bliska: Marcelemu Kosmanowi w sześćdziesiątą rocznicę urodzin. Poznań, 2000.

**Sherman Carlos.** Los puntos cardinales: Poema; Накірункі свету: Паэма / Пер. Р. Барадуліна; Cardinal Points: Poem / Transl. V. Rich; Стороны света: Поэма / Пер. И. Бурсова. Мн., 2000.

## ПРА III МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ ПІСАЛІ:

**Антонава-Мельяновіч Таццяна.** З фрагментаў складаецца карціна // Звязда. 2000. 23 мая.

**Антонава-Мельяновіч Таццяна.** "Кангрэс беларусістаў ставіць перад сабой навуковыя мэты": [Інт.] // Звязда. 2000. 17 мая.

**Данейко Елена.** Диалог цивилизаций [на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў]: Белорусскую культуру изучают в 24 странах // Известия. 2000. 2 июня.

**Дубянецкі Эдуард.** Свята асветнікаў і беларусістаў свету // Культура. 2000. 3–9 чэрв.

**Суровцев Юрий** [Масква]. Культура исключает внутренние противоречия // Рэспубліка. 2000. 10 чэрв.

**III Міжнародны** кангрэс беларусістаў // Весткі й паведамленьні нью ёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. 2000. 30 траўня.

**III Міжнародны** кангрэс беларусістаў // Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады: Камунікат. 2000. № 4. Трав. С. 239.

**Уліцёнак Галіна.** Трэці Міжнародны кангрэс беларусістаў // Голас Радзімы. 2000. 31 мая.

**Чыгір Георгій.** Беларусісты свету на Беларусі // Народная газ. 2000. 23 мая.

**(ЯМ)** [Мірановіч Яўген]. III Міжнародны кангрэс беларусістаў // Ніва. 2000. 4 чэрв.

**Японцы** размаўляюць па-беларуску, а ў Беларусі няма грошай на кангрэс беларусазнаўцаў // Бел. дайджэст. 2000. № 6. С. 2, 12.

**Dubianetsky Edward.** Third International Congress of Belarusists held in Minsk // Belarus Today. 2000. May. 23–29.

**Lapinskienė Alma.** Vienintelis kelias bendrauti // Literatura ir menas. 2000. Birž. 30.



## З СУСВЕТНАГА ПАТОКУ НАВІН

~ ~ ~

У Гановеры (Германія) дзейнічае Сусветная выстаўка “ЭКСПО – 2000”. Наведвальнікі яе беларускага павільёна знаёмяцца з дасягненнямі нашай краіны ў самых розных сферах, у тым ліку ў навуцы, культуры, мастацтве, з нашымі нацыянальнымі традыцыямі і абрадамі. Каштоўным экспанатам з’яўляецца адна з кніг Бібліі, выдадзеная ў 1518 г. у Празе Францыскам Скарынай.

~ ~ ~

У Беларусі працягваецца святкаванне 510-х угодкаў з часу нараджэння Францыска Скарыны. Вялікаму беларускаму асветніку быў прысвечаны VI Міжнародны дзіцячы пленэр, які пачаўся на яго радзіме, у Полацку, 21 чэрвеня.

~ ~ ~

У Варшаве створаны Інстытут беларускай культуры. Яго мэта — садзейнічаць міжнародным культурным кантактам. З дапамогай інстытута арганізавана выстаўка “Новае мастацтва Беларусі”.

~ ~ ~

28 красавіка бягучага года у Мічыганскім універсітэце (Эн-Арбор, ЗША) беларуска Марыя Паўля Сурвілла атрымала званне доктара ў галіне музыкалогіі. Падставай для гэтага паслужыла праца “Аб русалках і рок-спеваках: акрэсленне сябе і вызначэнне нацыі праз сучасную беларускую музыку”.

~ ~ ~

18 мая ва Універсітэце ў Беластоку (Польшча) беларуска Валянціна Мароз паспяхова абараніла доктарскую дысертацыю, прысвечаную беларускаму хрысціянска-дэмакратычнаму руху, яго галоўнаму друкаванаму органу “Крыніца” (“Беларуская крыніца”), які выдаваўся ў Вільні ў міжваенны перыяд. Высокую ацэнку працы даў праф. Ежы Тамашэўскі, аўтар і чытач нашага бюлетэня.




## “ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЦІ” ПРАЛЁГ ПРАЗ БЕЛАВЕЖУ

“Барацьба за праўду” — пад такім дэвізам, па слушнаму азначэнню кіраўніка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесара доктара габілітаванага Аляксандра Баршчэўскага, 15–17 чэрвеня адбылася ў Белавежы на Беласточчыне VIII сесія Міжнароднай канферэнцыі “Шлях да ўзаемнасці”. Арганізатарамі яе выступілі кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Польскае таварыства беларусістаў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Польскі інстытут у Мінску, а таксама Польскае навуковае таварыства ў Беларусі, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане.

Пра пачатак работы канферэнцыі абвясціў Аляксандр Баршчэўскі. З прывітаннем да ўдзельнікаў звярнуўся войт Белавежы Станіслаў Куявяк. Вітаў вучоных і бурмістр м. Гайнаўка Анатоль Ахрыціюк. Пра дзейнасць Дома культуры ў Гайнаўцы падрабязна апавядаў яго дырэктар Мікалай Бушко. З прывітальным словам выступіў дэкан факультэта прыкладной лінгвістыкі і ўсходніх філалогій Варшаўскага універсітэта Антоній Семчук.

Удзельнікі заслухалі даклады пра моўную сітуацыю і стан адукацыі на Беласточчыне. Асабліва цікавымі былі падрабязныя інфармацыі дырэктараў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання Зінаіды Навіцкай (Бельск-Падляшскі) і Эўгеніюша Сашко (Гайнаўка). З прыемнасцю было ўспрынята паведамленне, што каля 80 % з 3550 выпускнікоў ліцэяў паступіла вучыцца ў ВНУ. З цеплынёй і ўдзячнасцю была адзначана цесная сувязь ліцэяў з Рэспублікай Беларусь.

Усяго дакладчыкаў на канферэнцыі было 25 асоб. Самая вялікая іх група прыехала з Беларусі (19). У многіх выступленнях адзначаліся плённае беларуска-польскае супрацоўніцтва ў 90-х гг. XX ст. у галіне культуры, навукі і адукацыі, вядучая роля ў гэтым працэсе Скарынаўскага цэнтра. У дакладзе Дзмітрыя Крывашэя (Мінск) падрабязна асвятлялася выдавецкая дзейнасць у 1991–1996 гг. у Беларусі. У гэты час павялічылася колькасць публікацый (67) твораў польскіх аўтараў у перакладзе на беларускую мову. Багата перакладалася і з беларускай мовы на польскую.

Канферэнцыя набыла комплексны характар і вельмі адпавядала ідэі ўзаемнасці. Так, канцэптуальнаму разгляду вытокаў фарміравання беларускай нацыянальнай культуры, уплыву польскай культуры і ўзаемасувязей польскай і беларускай культур у XVIII і пачатку XIX ст. быў прысвечаны даклад доктара філасофскіх навук Вадзіма Салеева (Мінск).

Ішла гаворка пра гістарычную і сацыяльную сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай. Так, Андрэй Радаман (Мінск) даследаваў магчымасці замяшчэння ваяводскіх і павятовых земскіх пасад у ВКЛ этнічнымі палякамі ў 2-й палове XVI ст. Гэта маглі зрабіць толькі тыя, хто валодаў зямельнай уласнасцю ў дадзеным павеце і нарадзіўся ў ВКЛ.

Глыбінёй характарызаваўся даклад Лідзіі Кулажанка (Мінск) на тэму "Культурная самастойнасць шляхты на беларуска-польскім памежжы ў XIX – пачатку XX ст.". Ёю сфармуляваны спецыфічныя рысы свядомасці шляхты названага перыяду: кансерватызм, традыцыяналізм, рамантычная прывязанасць да свайго краю (пры адчужанасці ад несвайго), краёвы патрыятызм. Падкрэслівалася важнасць вывучэння вышэйшага саслоўя ў сучасных гістарычных і культуралагічных даследаваннях.

Пра сувязі тыпа беларуса XIX ст. з сучасным, праблемы нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнага светапогляду разважала ў сваім дакладзе "Тып беларуса ў "Паляўнічых акварэльках з Палесся" Янкі Лучыны" Любоў Уладыкоўская-Канаплянік (Мінск).

Рышард Радзік (Люблін) выступіў з дакладам "Паляк, літвін, беларусін — эвалюцыя крытэрыяў народна-культурнай прыналежнасці ў двух стагоддзях". Ён улічыў усю супярэчлівасць характарыстыкі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у дадзены перыяд.

Шмат у якіх дакладах разглядаліся розныя праявы складаных гістарычных сітуацый культурнага ўзаемадзеяння (В. Каранеўская, В. Скалабан, І. Тамільчык, Я. Янушкевіч).

З увагай былі праслуханы даклады пра малавядомае нам беларускае культурнае жыццё ў эміграцыі і сувязі яго з Бацькаўшчынай (А. Баршчэўскі, Н. Баршчэўская).

Асаблівую цікавасць выклікаў даклад Ігара Пушкіна (Магілёў) пра дзейнасць польскіх культурна-асветных устаноў і іх работу сярод польскага каталіцкага насельніцтва на самым усходзе БССР, на абшары б. Калінінскай акругі (1924–1927). У асобных дакладах гаварылася пра сучасны стан культуры, неспакой за яе лёс у Беларусі (С. Габрусевіч, Гродна).

Была прадэманстравана высокая мастацкая вартасць перакладу паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" на польскую мову, зробленага Чэславам Сэнюхам (Варшава). Выяўлены элементы паэтыкі ў прозе Васіля Быкава (Т. Белд, Вроцлаў); вывучаны польскія крыніцы купалаўскага натхнення (І. Багдановіч, Мінск), тонка даследаваны антычныя матывы ў лірыцы кахання Алеся Барскага (А. Брадзіхіна, Гомель).

У мовазнаўчых дакладах выяўляліся рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы (М. Саевіч, Люблін). Прыводзіліся цікавыя гістарычныя звесткі (І. Яшкін, Мінск).

У час канферэнцыі ўсе яе ўдзельнікі былі акружаны ўвагай, сардэчнасцю. Па заканчэнню канферэнцыі гасцям быў паказаны высокамастацкі канцэрт Бе-

ларускага ансамбля песні гайнаўскага Дома культуры. Незабыўным было наведанне Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, сустрэча з айцом Міхаілам Нігерэвічам. Адданыя справе асветніцтва бібліятэкар пры Беларускім доме культуры Наталля Герасімюк, намеснік дырэктара музея Янка Філімончык, дырэктар Кастусь Майсеня, дзякуем Вам за падрабязны расказ пра скарбы Гайнаўкі, за добрыя адносіны, за Вашу шчырасць. Поспехаў Вам!

***Іван Яшкін**, супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*

**P. S.** Старэйшаму пакаленню на канферэнцыі было вельмі і вельмі прыемна бачыць дастойную змену навукоўцаў-даследчыкаў. Якія глыбокія былі даследаванні: аб’ектыўныя, шчырыя, праўдзівыя!

## ЖАЛОБНАЯ ЦЫРЫМОНІЯ Ў НЯСВІЖЫ

Нашчадак славутага магнацкага роду Антоні Радзівіл нарадзіўся ў Польшчы, жыў у Англіі. Але тым не менш разам з жонкай і сынамі двойчы прыязджаў у Нясвіж, удзельнічаў у навуковай канферэнцыі, якая праводзілася там Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, стаў ганаровым прэзідэнтам фонду “Нясвіж”. Адчуваў роднасць з беларускай зямлёй, таму і завяшчаў пахаваць свой прах у крыпце нясвіжскага фарнага касцёла. Актыўна садзейнічаў выкананню гэтай волі праф. Анджэй Цеханавецкі (Лондан), адзін з заснавальнікаў і ганаровы сябра нашай асацыяцыі.



8 чэрвеня ў Нясвіжы адбыўся жалобны акт пахавання. У ім удзельнічалі удава нябожчыка, яго сыны, прадстаўнікі беларускіх міністэрстваў і ведамстваў, дыпламаты, а таксама, нягледзячы на цяжкасці са здароўем, праф. Цеханавецкі.

Княгіня Ружа Радзівіл прыслала на імя прэзідэнта асацыяцыі ліст, у якім гаворыцца: “Пішу гэтых некалькі слоў, каб сардэчна падзякаваць за сустрэчу нас у аэрапорце ў Мінску, а таксама за ўдзел ва ўрачыстасці ў Нясвіжы. З прыемнасцю ўспамінаем нашу сустрэчу ў Мінску ў 1993 г., калі мы ўпершыню апынуліся на беларускай зямлі. Вы былі тады нашым праваднікoм па Нясвіжу і Міру […]. Ад свайго імя, а таксама сыноў Марціна з яго жонкай Карын і Паўла жадаю вам і асацыяцыі поспехаў у будучым і далучаю словы павагі”.

*На здымку:* А. Цеханавецкі і А. Мальдзіс у час сустрэчы ў аэрапорце Мінск-*2*

# CONTENTS



Падпісана ў друк 24.07.2000. Папера афсетная. Друк афсетны.
Фармат 60x90 1/16. Умоўн. друк. арк. 4. Ул.-выд. арк. 4,6.
Тыраж 299 экз. Заказ № 146.
Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі ТАА "Юніпол".
Ліцэнзія ЛП № 210 ад 5.01.98 г. 220039, г. Мінск, вул. Караткевіча, 6.

Погляды аўтараў могуць не супадаць з поглядамі сяброў рэдкалегіі.

Правапіс аўтараў, якія карыстаюцца тарашкевіцай,
рэдакцыя мусіць падаваць паводле сучаснага беларускага правапісу.
Для паскарэння работы над артыкуламі просім дасылаць
іх па E-mail ці на дыскетах (пажадана ў фармаце MS Word 2.0-7.0)